Пашкевіч А.

Карусь Каганец: “Кроў з крывi беларуса...”/ А. Пашкевіч. – Мінск: Харвест, 2013 – 64 с. – (Серыя “100 выдатных дзеячоў беларускай культуры”)

Казімір Рафаіл Кастравіцкі (Карусь Каганец) (1868–1918) — славуты беларускі драматург, паэт, празаік, грамадскі дзеяч, перакладчык, мастак, скульптар, карыкатурыст, фалькларыст, этнограф, мовазнаўца, актор, педагог, аўтар першага беларускага “Буквара”, стрыечны дзядзька сусветнавядомага паэта Гіёма Апалінэра. Яго постаць — самабытная і цікавая з’ява ў культурным і грамадскім жыцці Беларусі канца XIX – пачатку XX стагоддзяў.

ISBN 978-985-20-1982-5

# УСТУП

…Уявіце сабе: у 1893-м годзе па імперска-губернскім Мінску ходзіць дзяцюк у сялянскім расхрыстаным кажуху, пад якім – падперазаная чырвоным рушніком белая нацыянальная вышыванка, на нагах – скураныя самаробныя боты, доўгі каваны нож за наваксаванай халявай… Ходзіць ён з запаленай ліхтарняй у руцэ – днём! І калі спытаць: «Што, чалавеча, ты робіш?», пачуеце ўпэўнены адказ па-беларуску: «Шукаю беларусаў!». «А нож навошта?» — пацікавіцеся вы, і пачуеце: «Ды на ўсякую прыгоду…».

А ходзіць гэта — старадаўняга шляхецкага роду прадстаўнік, прадзеды і дзяды якога былі пісарамі і скарбнікамі князёў Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага ды каралёў Рэчы Паспалітай, бацька і ўсе дзядзькі якога пасля ўдзелу ў паўстанні 1863 года былі асуджаны і пазбаўлены сваёй спадчыннай маёмасці. Ходзіць стрыечны дзядзька класіка сусветнай літаратуры Гіёма Апалінэра і аўтар першага падручніка для беларускіх дзяцей. Ходзіць паэт і празаік, драматург і перакладчык, мастак і скульптар, навуковец і педагог, карыкатурыст і грамадскі дзеяч Казімір Рафаіл Карлавіч Кастравіцкі, вядомы пад псеўданімамі Карусь Каганец і Будзімір. Ходзіць і будзіць насельнікаў сваёй радзімы – яшчэ з канца далёкага XIX стагоддзя…

Пра яго пакінулі ўдзячныя і захапляльныя згадкі і ўспаміны Вацлаў Ластоўскі, Антон Луцкевіч, Алесь Гарун, Язэп Лёсік, Янка Купала, Максім Гарэцкі, Аляксандр Уласаў, Язэп Дыла, Паўліна Мядзёлка. Яго неардынарнай постаці і арганічнаму таленту прысвячалі дзясяткі вершаў лепшыя беларускія паэты, сярод якіх – Максім Багдановіч і Змітрок Бядуля, а таксама сучасныя аўтары (згадаем вершы Анатоля Сыса, Міхася Скоблы, Віктара Шніпа, эсэ з «Іменаў Свабоды» Уладзіміра Арлова і інш.). Яго творчы лёс актыўна вывучалі Мікола Каспяровіч, Сцяпан Александровіч, Алег Лойка…

Пра светач таленту і грамадзянскага служэння гэтага чалавека, які годна і па праву называў сябе крывёй з крыві беларуса, і пойдзе гаворка ў гэтым нарысе…

## ВОДСВЕТЫ ЗАГАДКАВАЙ ЗОРКІ

Загадкавай і нераскрытай пакуль цалкам застаецца праблема мастацкіх першаштуршкоў і першапачаткаў, якія запалілі каганец пісьменніцкай думкі, таленту, якія надалі яму творча-дзейсную моцу — яркае і чыстае святло Адраджэнскае ідэі. Мала каму вядомы 25-гадовы хлопец са збяднелай сям'і, калекаваты, у вёсачцы Лісі Норы Менскага павета яшчэ ў 1893 г. стварае велічна-патрыятычную, узнёсла-асветніцкую «Прамову», блізкую да народных казанняў, адну з першых пропаведзяў толькі-толькі ўзрослай на свет з новай жыццёвай сілай ідэі беларускай самастойнасці і незалежнасці. У пераклічцы з Францішкам Багушэвічам Карусь Каганец узнаўляе слаўныя старонкі зацемненай і занядбанай гісторыі беларускага краю і, знітаваўшы свой твор чыстым і кранальным лірызмам, выводзіць усё тое ж пытанне-вокліч, якое яшчэ цэлае XX ст. будзе неадступна хваляваць нацыянальных творцаў: *«Ці справядліва гэта — усяго, што сваё, чурацца: і мовы сваёй, і звычаю свайго, і апраткі сваёй?»*. А далей, у павучанне, малады пісьменнік дадае: *«А ведаеце тое, што мова наша колісь слаўнай была, і быў час, калі наша мова працвітала пры дварэ каралёў польскіх. Ведайце, што спамеж нас больш, як спамеж другіх народаў славянскіх, слаўных людзей выходзіла даўней і цяпер выходзіць і розумам і ваеннымі заслугамі… Адно нядобра, што кожны славу прыносіць не сваёй старонцы, а ўсё чужым».* (Каганец К. Творы. — Мн., 1979, с. 25.)

Ад чаго ўзгарэлася зорка Казіміра Кастравіцкага, хто давыпеставаў укладзеныя Богам душэўныя зернейкі таленту гэтага чалавека?

Два ягоныя псеўданімы — Карусь Каганец і, меней вядомы, Будзімір — вельмі яскрава перадаюць нам змест ягонай дзейнасці і ўжо самі па сабе кідаюць водсвет на загадку творцы. Нездарма ж частка першага, найбольш прызнанага і вядомага, — народная форма імя бацькі, неспакойнага змагара з бунтарнага шляхецкага роду Кастравіцкіх — Карла Самуілавіча. Каганец, відавочна, загарэўся з рэштак вуголля антырасійскага вызваленчага паўстання 1863 г. і ідэйным натхняльнікам меў велічную постаць Кастуся Каліноўскага (не выпадкова ў 30-ю гадавіну паўстання і была створана вышэй згаданая «Прамова»).

Кастравіцкія здаўна мелі свой родавы знак — герб «Байбуза», рэдкі і арыгінальны. З пакалення ў пакаленне перадавалася легенда аб тым, як адзін з іхніх родзічаў, што быў пры двары вялікага князя, выратаваў яго ад немінучай смерці — забіўшы з лука змяю, трапіўшы ёй акурат у галаву. І таму ўзнікла на чырвоным полі гербавага шчыта

страла ды застыла на стагоддзі танклявая змейка на ёй... На шчыце маюцца яшчэ выявы белых грыбоў (гарманічна звязваючы яго сюжэт з лясным пейзажам), праз этымалогію якіх некаторыя вучоныя спрабавалі вывесці назву герба — *«байбузовы»,* маўляў, блізкі «грыбному». (Карусь Каганец, па сведчанні яго дачкі, меў вялікую цікавасць да свайго герба.)

Першым з Каганцовага роду дайшло да нас імя Івана Кастравіцкага, праваслаўнага шляхціча, скарбніка Мсціслаўскага княства (XV ст.), які за добрую службу атрымаў вёску Кастравіцы на Гарадзеншчыне. (Яшчэ даўней гэты род меў прозвішча Бакуновічаў, баяр Мсціслаўскіх.) У XVI ст. унук Івана — Сцяпан Кастравіцкі — прыняў каталіцкую веру. Далей, пасля пярэбараў з гарадзенскіх Кастравіцаў, родавага кута, на Меншчыну, адбылося і пералічэнне Кастравіцкіх з віленскіх дваран у менскія. Можна адшукаць нават і той дакумент аб зацвярджэнні за імі дваранскай годнасці з захаваннем таго ж герба «Байбуза» — ва «Указе Правительствующего Сената Герольдии» ад 30 чэрвеня 1834 г. за № 16277. Менскі Дваранскі Сход запісаў Кастравіцкіх у шостую частку дваранскай радаслоўнай кнігі Менскай губерні — як прадстаўнікоў паважанага старажытнага радавода (у той жа раздзел, да прыкладу, было занесена і прозвішча Вінцэнта-Якуба Дуніна Марцінкевіча). Пашанотныя дваранскія кнігі падзяляліся на шэсць частак-раздзелаў. У першую ўносіліся радаводы, якім дваранства прызначалася ўладамі за адметныя выслугі, у другую — за ваенныя адзнакі, у трэцюю — за грамадзянскія і службовыя заслугі, у чацвёртую — залежныя роды, у пятую — сем'і, адзначаныя тытулам. Самыя ж «пачэсныя» старажытныя дваранскія дрэвы належалі да ганаровай шостай часткі.

Але род, прадстаўнікамі якога былі пісары і скарбнікі каралёў Рэчы Паспалітай і князёў Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага (як, да прыкладу, Васіль Кастравіцкі, пісар караля Януша Радзівіла), паступова бяднеў. У сярэдзіне XIX ст. Караль (Карл) Самуілавіч Кастравіцкі, бацька будучага пісьменніка, валодаў толькі сядзібай-фальваркам Навасёлкі на Койданаўшчыне (цяпер – Дзяржынскі раён Мінскай вобласці). І да сёння засталіся на той зямлі і дом-палац з высокімі калонамі (цяпер выкарыстоўваецца як сельская бальніца), а таксама рэшткі цаглянай стайні і брамы. І мураванка для работнікаў на некалькі сем'яў...

Гаспадарка ў Навасёлках вялася Кастравіцкімі згодна з найноўшымі тагачаснымі навуковымі дасягненнямі, а тыя 6 сялянскіх двароў, якія належалі да фальварку, не адбывалі паншчыны, а жылі на правах чыншавікоў, што ў той час сустракалася вельмі рэдка.

Караль Самуілавіч, гарбаты ад нараджэння, быў высокаадукаваным чалавекам (меў, да ўсяго, добрую агранамічную адукацыю), вельмі любіў музыку.

Каганцова маці, у дзявоцтве Алена Свентаржэцкая, паходзіла з багатай беларускай сям'і з-пад Стоўбцаў, закончыла Віленскі інстытут. Яе бацька, згодна з сямейным паданнем, гаварыў амаль толькі па-італьянску і быў вучоным. Пабраліся будучыя бацькі Каруся Каганца, калі ім было адпаведна 40 (Каралю Самуілавічу) і 19 (Алене) гадоў.

У 1864 г. за ўдзел у паўстанні Караль Кастравіцкі, як і яго брат Казімір, быў высланы ў Сібір, а зямля і маёмасць у Навасёлках — канфіскаваныя. У Табольску ён знайшоў сабе службу, а ў хуткім часе да яго прыехала і жонка з трыма дзецьмі: сынамі Стасем і Амбрbelieveм ды дачкой Досяй. Там, у далёкім Табольску, 29 студзеня (10 лютага — па новым стылі) 1868 г. і напоўніліся ўпершыню паветрам — марозлівым, сібірскім — грудзі беларускага немаўляці Казіміра Рафаіла (такое яго поўнае імя) Карлавіча Кастравіцкага і загарэлася пакуль яшчэ кволае сэрца цяпельным светачам, што праз колькі гадоў разальецца на радзімай Беларусі Каганцовым Будзімірскім святлом...

Брат жа Караля Кастравіцкага Міхаіл Апалінарый, штабс-капітан рускай арміі, таксама ўдзельнік антырасійскага паўстання 1863 г., здолеў эміграваць у Еўропу. 26 жніўня 1880 г. у Рыме ў ягонай дачкі Ангелікі (Анжалікі) «пазашлюбна» народзіцца сын Вільгельм Альберт Уладзімір Аляксандр Апалінэр Кастравіцкі, які, узяўшы за псеўданім дзедава імя (як ягоны дзядзька Карусь Каганец — бацькава), стане сусветна вядомым паэтам Гіёмам Апалінэрам (сябры яго яшчэ называлі паводле дзедавага і матчынага прозвішча Кастро...

Ссыльны Караль Кастравіцкі, на якога навалілася цяжкая хвароба, неаднаразова — нібы наперад ведаючы свой трагічны лёс — дамагаўся права для сям'і вярнуцца на родную зямлю. З цяжкасцю, але ўсё ж атрымалі Кастравіцкія ў 1872 г. дазвол на гэта. Караль Самуілавіч купляе трое коней і сані, і ўся сям'я «сваім ходам» — праз снег і мароз — выправілася ў зваротную дарогу.

І была сцюжа, і былі змрочныя — толькі б пераспаць у цяпле — прыстанкі. Стамілася цяжарная жонка, хоць і трывала ўсё моўчкі і мужна, трымаліся і дзеці...

А штовечар, калі сямейнікі, натузаўшыся за дзень, цесненька спалі на сваіх адагрэтых «набытках», Караль Самуілавіч даставаў з кішэні пацёртую падарожную кніжыцу — ці не нямецкі нататнік са скуранай светлакарычневай вокладкай, з партаманетнымі кішэнькамі (куды зручна было класці розныя цыдулкі і карткі), з паловай

мелаваных (каб сцёршы, зноў пісаць простым алоўкам) балонак — даставаў і адгортваў старонку, на якой дробным акуратным почыркам яшчэ ягоным бацькам (які і купіў гэты нататнік у далёкім 1813 г., аб чым на апошняй абачыне сведчыў надпіс продка) была выведзена на старадаўняй лаціне малітва. Хоць і ведаў Караль Самуілавіч тую малітву напамяць, але зноў і зноў чытаў яе па напісанаму — разам са словам да Бога спрычыняўся і да слова бацькавага, нібы спавядаючыся і просячы заступніцтва ў абодвух…

Да заканчэння зімы паязджане паспелі дабрацца з Табольска ў Маскву. Амаль задарма спешна прадалі коней, сані — і ўжо цягніком выправіліся да Менска.

Напрадвесні 1874 г. Кастравіцкія прыехалі на радзіму. Цяжкая дарога дадому адабрала ў бацькі Каруся Каганца апошнія жыццёвыя сілы. Каралю Самуілавічу было прапанавана жыхарства ў «Былым Царстве Польскім», куды ён, пакінуўшы сям'ю ў жончыных родзічаў у вёсцы Засулле пад Стоўбцамі, і падаецца. Але працу знайсці не ўдалося, і ён вярнуўся назад. Праз месяц у Кастравіцкіх нарадзілася дачка, якую, ахрысціўшы, назвалі Маняй. У сямейных клопатах прабегла яшчэ паўгода, пасля чаго Караль Самуілавіч выехаў у Менск — ужо ў каторы раз пахадайнічаць аб гэтым абрыдлым «виде на жительство» (ён, хто мог назваць на гэтай зямлі «пятнаццаць каленаў» сваіх продкаў!). З дарогі былы ссыльны зайшоў праведаць даўніх знаёмых, дзе за шклянкай гарбаты раптоўна адышоў у вечнасць...

Будучаму Карусю Каганцу было тады 6 гадоў. Неўзабаве пасля смерці мужа маці Казіміра ўзяла прымака — мясцовага селяніна. У сям'і пачалі з'яўляцца новыя дзеці, жыццё не лягчэла…

У свой час бацька Каруся Каганца забяспечыў быў за сваёй жонкай асобным дакументам частку маёмасці, якая не магла быць канфіскаванай. Але маці Казіміра выехала, спадзеючыся на лепшае, за мужам у высылку, а сваякі страцілі адпаведны дакумент. Калі ж ён знайшоўся, на маёмасць «зайшла даўнасць». Усё ж, дзякуючы нейкім намаганням, удалося атрымаць ад сястры Каганцовай маці каля дзвюх валокаў зямлі — пусткі ў Юцкох (Прымагіллі) каля Койданава (гэтая назва сустракаецца яшчэ і ў іншым варыянце — Яцкі). Туды і пераехала з «новым» бацькам сям'я Казіміра Кастравіцкага: маці, Дося, Стась, Амброзій, Маня, і Казік, Янка і Міхалка…

## ЖЫЦЦЁВЫЯ «ЎНІВЕРСІТЭТЫ»

Малому Казіміру давялося зрабіцца вясковым пастушком, зарабляючы сабе і родным на хлеб. Так, зрэшты, сцвярджалі ўсе вядомыя (хоць іх — невялікі драбок) даследаванні, прысвечаныя жыццю і творчасці Каруся Каганца. «...Ён (Карусь Каганец. — *А. П.*) пачаў пасьвіць і быў пастухом ад 6 да 11 год. Выганяць прыходзілася ледзь ня ўночы — раніцай, і прыганяць ледзь ня ўночы — увечары. Адпачываць жа ўдзень, калі жывёла стаяла захаванай у хлевушку ад аваднёў, нельга было, бо не было чаго есьці, і малы Казімір бег да каго-небудзь з суседзяў і вёў пасьвіць выпражанага з плуга каня, каб зарабіць сабе кубак малака...», — чытаем у артыкуле Міколы Каспяровіча і, як вынік, знаходзім: «...умовы працы зарадзілі нянавісьць да тамашніх палацаў, якія, як ужо сьцяміў у той час Казімір, жылі за кошт яго і яго прыяцеляў працы» (Касьпяровіч М. Карусь Каганец (Да 10-ай гадавіны сьмерці) // Наш край, 1928, № 10, с. 70.).

Са значным ідэйнаадрозным апісаннем маленства Казіміра Кастравіцкага давялося пазнаёміцца ва ўспамінах Вацлава Ластоўскага, які сведчыў аб тым, што сям'я Каруся Каганца ў той час жыла адносна багата, мела сваю дваровую службу, пякарню, дзе сярод простата люду і праводзіў малы Казімір большасць вольнага часу. «Успамінаючы свае дзіцячыя гады, Карусь Каганец апавядаў, — пісаў В. Ластоўскі, — што ён да 10 гадоў заўважыў ужо антаганізм, які існаваў паміж пакоямі і пякарняй. У 15-гадовым узросьце яго дражніла тое... дзяленьне на «мы» і «яны». «Мы» — памешчыкі, шляхта, «яны» — сяляне... Яго дружба з сялянскай моладзьдзю і «простая» (г. зн. ня панская) мова бывалі частымі прычынамі сямейных драм. Але аканчальны разрыў з сям'ёй наступіў пасьля таго, калі Карусь Каганец, пад уплывам народавольскіх ідэй, <u>уцёк з дому</u> (вылучана мной. — *А. П.*) і наняўся ў суседнім павеце пасьвіць статак у вёсцы» (гл.: Ластоўскі В. (Успаміны аб Карусю Каганцу) // Савецкая Беларусь, 1928, № 115.).

Такія адрозныя апісанні маленства Каруся Каганца, дзе ў першым выпадку яму давялося рабіць, не маючы чаго паесці, а ў другім — ён самохаць збягае з хаты (ад багатага, заўважым, стала).

І тут — сярод простага беларускага сялянства, якое адно пакуль не выраклася сваёй мовы і сваіх звычаяў, у матчыных абдымках прыроды — Карусь Каганец зведвае важнейшыя навукі свайго найгалоўнага жыццёвага ўніверсітэта. Цудоўным настаўнікам тут быў яму скарб роднай мовы, народных песняў, легендаў, паданняў, казак, якія ён ашчадна вывучаў і запісваў (а дома ж, калі

хлопца прылучалі да граматы, злосць брала, — прызнаваўся ён В. Ластоўскаму, — чаго гэта яго вучаць «не па-нашаму»). За нягоршага выкладчыка была малому Казіміру і праца, нялёгкая, але ўсё ж жаданая, вясёлая, — сярод цудоўных палёў, часта разам з іншымі сялянскімі дзецьмі. Многаму навучыла хлопца і адзінота, тая нясмелая, сціплая адзінота калекаватага хлапчука, якому лёс наканаваў вылучыцца сярод аднагодкаў і фізічна. Казімір меў горб, праз што пры гасцях крыху стыдобіліся сына і маці, і айчым, а гарбатасць не была прыроджанай, як у бацькі, а з'явілася вынікам нешчаслівага недагляду: яшчэ ў Табольску малы юваліўся з акна на вуліцу, і гэта яго пакалечыла, а ў Засуллі пад час гульні на хлопца абваліліся цяжкія вароты. Да калецтва, магчыма, спрычынілася і спадчыннасць...

Адзінота ў сям'і і ў полі навучыла многа думаць, перажываць, асэнсоўваць, паспрыяла росту моцнай волі будучага творцы і развіла яго духоўна, творча.

Сваім умельствам да граматы і малявання Карусь Каганец дзяліўся з сябрамі-падпаскамі. І ўжо тады Казімір пры дапамозе імправізаваных ім жа самім казак вёў сярод сялян, па сведчанні В. Ластоўскага, нацыянальную і сацыяльную прасвету-прапаганду.

Але час прыспешваў спазнаць і гімназічныя навукі. Яшчэ ў 11 гадоў Казімір паспрабаваў паступіць у гімназію, але, нягледзячы на добрую падрыхтаванасць, так і не быў залічаны: трапіўшы ў бліскучыя пакоі, ён нясмела адказваў на пытанні. Паўплывала яшчэ, верагодна, і яго паходжанне-стан – сына ссыльнага ваяра-паўстанца. Але ўсё ж такі хлопец змог паступіць у Менскае гарадское вучылішча. Пасля пашэнціла авалодаць скульптурным майстэрствам у Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства. З-за недахопу грошай даводзілася — часцей вальнейшым летам — падзарабляць: ехаць у вёску і брацца за касу і плуг. І не раз крывавыя мазалі раз'ядалі яму рукі — пасля чаго было сорамна брацца за кволы пэндзаль. Так і назбірвалася на ўвесь акадэмічны год нейкіх 80 рублёў...

Павучыўся Карусь Каганец і ў Пецярбургу, і зноў (ужо праз недахоп здароўя: не мог пераносіць піцерскага клімату) не дужа доўга.

Ды і які час прыпаў на «альмаматарскія» гады? Гэта — перыяд канчатковага затухання «Народнай волі», этап арыштаў 1880-х гг., калі ў памяці быў яшчэ свежым замах на імператара групы студэнтаў на чале з Аляксандрам Ульянавым. І Карусь Каганец на новых шляхах палітычнай чыннасці мацуе свае сілы...

У 1884 г. выйшлі ў свет два гектаграфічныя нумары нелегальнага часопіса ў расійскай мове «Гомон», у якіх група нарадавольцаў-

беларусаў дала абгрунтаванне ідэі беларускага дзяржаўнага будаўніцтва — але, праўда, у складзе Расійскай Федэрацыі (да старэйшых нарадавольцаў Беларусі належаў Ігнат Грынявіцкі, які выканаў смяротны прысуд цару Аляксандру ІІ). Як адгалоскі гэтага руху там-сям з'яўляюцца беларускія студэнцкія гурткі (яскравы прыклад — маскоўскае моладзевае аб'яднанне ў 1890 г., у склад якога ўваходзіў беларускі пісьменнік Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.), да якога мог спрычыніцца і малады Казімір Кастравіцкі.

З пазіцый народніцтва дзейнічаў Карусь Каганец у той час і ў сваім Прымагіллі, і гэта пашырала як кола яго таварышаў-прыхільнікаў, так і зласліўцаў-нядобразычліўцаў з вакольнай «шляхты» , якая і без таго не любіла гэтага «культурнага мужыка» (яшчэ ў юнацкія гады да яго прыстала мянушка «хлопоман»).

Не праходзілі марна гады вучобы і ў мастацкім плане: Карусь Каганец меў вялікія поспехі ў скульптуры і, вырабіўшы галаву Івана Грознага, стаў вядомым і сярод настаўнікаў, і сярод сваіх сяброў-аднагодкаў.

Убіралася ў сілу няўрымслівае, натхнёнае, апантанае Каганцова полымя, і ўжо не такім загадкава-нечаканым уступіў ён у спрэчку з халодным і магутным пакуль царствам вакольнай цемры, распачаў сваю публіцыстычную дзейнасць (і заканамерным уяўляецца цяпер узнікненне вышэйзгаданай нацыянальна-асветніцкай «Прамовы»), а да абуджальнай публіцыстыкі — нібы ў пярэвітак да сімвалічнага каганцовага кноту, каб светач шугаў далей і вышэй — уплёў і калівы паэтычнага таленту. У тым жа 1893 г. з'яўляецца і верш «Наш покліч». Яго першая публікацыя адбылася разам з вершамі Ф. Багушэвіча ў нелегальна выдадзеным у 1904 г. зборніку «Песні» — адной з першых беларускіх кніг XX ст.

«Наш покліч» — адзін з першых твораў новай беларускай літаратуры, у якім разам з сацыяльнымі яскрава прагучалі і адраджэнска-асветніцкія матывы:

Ой, гора, гора над намі,
А ўсяму вінаваты самі,
Бо мову прыродну мы забываем,
Апратку, звычай на чужы мяняем.
Гэй, да схамянемась,
Да са сну прачнемась!

Палітык-народнік і адраджэнец-рамантык зліліся ў адной асобе творцы — асобе адметнай і арыгінальнай. І ці не адным з першых

адзначыў гэта яшчэ Максім Гарэцкі, які ў сваёй «Гісторыі беларускае літаратуры» засведчыў: «Пачаў ён (Карусь Каганец. — *А. П.*) пісаць з 90-х гадоў у часе пашырэньня твораў Багушэвіча, але стаіць у гэтым часе зусім самабытна, арыгінальна, па-за ўсякімі ўплывамі і пераймманьнямі…».

М. Гарэцкі першым абмаляваў і сам гістарычна-ідэйны зрэз, на які прыпаў пачатак Каганцовай чыннасці, і асноўныя накірункі-ўзросткі ягонай працы: «У самую дзікую пару аляксандраўскай рэакцыі <…>, калі сыстэма абмаскальваньня й змаганьня з сацыялістычным рухам была ў поўным росквіце, кінуў Каганец лозунг: “Беларусь трэба падымаць!”. Як ідэйна-грамадскі працаўнік, ён быў ведамы ня толькі беларускай інтэлігенцыі, але й шырокім колам краёвых працаўнікоў вызваленчага руху канца 90-х і 900-х гадоў».

Маніфестам кожнага сапраўднага беларуса з’яўляўся і верш Каруся Каганца «Наш сымболь» (напісаны ў тым жа, што і «Наш покліч», 1893 г.), у якім перадаваліся пажаданні-зычанні сваім братам па справе змагання-барацьбы за Бацькаўшчыну:

Адважна, брацця, наперад ідзіце
Цвёрдай і правай ступою!
Кожнаму ў вочы смела глядзіце,
Праўду нясіце з сабою!
За родну краіну, звычай і мову,
За веру груддзю ставайце!
Ды будзьце верныя сваему слову,
З Богам заўсёды трывайце!
Тады вы усякую зможаце сілу,
Ворагам прыйдзе скаранне!
Правым дасць Бог наградачку мілу,
Шчасце і радасць настане!

Не выпадкова захацелася працытаваць гэты верш цалкам і ўзнавіць яго менавіта па першапублікацыях — у «Велікоднай пісанцы» 1904 г., у «Календары “Нашай Нівы” за 1911 год», бо нялёгкі лёс «рэдагавання» і лакіроўкі выпаў яму. Таму ў адзіным зборы твораў пісьменніка (Каганец К. Творы. – Мн.: Мастацкая літаратура, 1979) на месцы падкрэсленых вышэй слоў мы знаходзім нейтральныя, завуаляваныя: «За гонар груддзю ставайце», «З праўдай заўсёды трывайце»…

Жыццё і лёс Беларусі патрабавалі разнаплыннай і разнажанравай працы, і ён ужо зрыхтаваўся да гэтага…

## У СВЯТЛЕ ЛЮБОВІ

І яшчэ пад адной найяркай зоркай трэба разглядаць легенду Каруся Каганца. Імя ёй — Любоў.

Лёс падараваў яму велічнае каханне да жанчыны, і гэта ўнесла ў творчасць новую магічную цеплыню лірычнасці, пачуццёвасці і шчырай сентыментальнасці.

Пачуццё гэтае — шырэй — было асвечана любоўю творцы да роднай зямлі, да маці-прыроды, і ад апошніх і ўзрастала, бо хто, як ні тыя радзіма і прырода, уклалі ў калекаватае, сціснутае цяжарам вакольнай цямрэчы цела здольнасць так высока, чыста і адухоўлена (напрыканцы жыццёвага шляху Карусь Каганец прыйдзе да ўсеахопнага спасціжэння вобразу Маці Боскай) адчуваць сусветную прыгажосць і прыгажосць адзінкавую... А да ўсяго — і ўнутраную.

Вялікая і чароўная сіла кахання надала Каганцоваму полымю якасна новыя адценні і афарбоўкі, пяшчоту й кунегу. Таму і нараджаліся разам з названымі вышэй абуджальна-асветніцкімі вершамі лірычна-інтымныя творы. У перыяд з 1894 па 1896 гг. Карусём Каганцом быў створаны асобны вершаваны цыкл, з якім, на жаль, цалкам чытач азнаёміцца пакуль што не можа...

Поўная назва цыкла — «Спяванні мілосныя “Каханне Каганца”», а самі тэксты захоўваюцца ў рукапісным архіве пісьменніка (Аддзел рэдкай кнігі і старадрукаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, ф. 1, вып. 1.). У складзены далёка не поўны збор твораў Каруся Каганца (Каганец К. Творы. — Мн., 1979) увайшлі два вершы гэтага цыкла, аб чым, верагодна, не здагадваўся і сам складальнік — Сцяпан Александровіч. У прадмове да кнігі ён зазначыў: «Шкада, што не захаваўся своеасаблівы прыродаапісальны (? — *А. П.*) цыкл вершаў паэта “Каханне Каганца”».

Цыкл складаецца з шасці вершаў, знітаваных узвышаным і чыстым пачуццём, насычаных лірычна-псіхалагічнымі роздумамі. З народна-песенных традыцый, дааздобленых уласнааўтарскім светабачаннем, выліваюцца найчасцей Каганцовы радкі:

Ой, у полі веце вее,
Маё сэрца чагось млее.
…
То не кветка у траве
І не птушка сэрца рве,
А дзяўчына між нас е
Мільша жыцця для мяне…

Маючы ўражлівую душу мастака, ведаючы адгадкі вясёлкавых фарбаў і скульптурных ліній, Карусь Каганец не мог не адчуваць, не асэнсоўваць суб'ектыўна-ўласных перажыванняў, настрояў. І тут, здаецца, ён адным з першых пракладаў у нашай літаратуры (па-свойму і смела) новую сцежку *імпрэсіяністычнасці.* І імпрэсіяністычнасць Каруся Каганца — адметная, фальклорная. «Першае слова яго кніжнай творчасьці было апошнім словам народнай творчасьці», — пісаў пра пісьменніка ў «Гісторыі беларускае літаратуры» Максім Гарэцкі. А Максім Багдановіч, прыйшоўшы напрыканцы жыцця да спасціжэння народнасці культуры і мастацтва, «каб стаць бліжэй да душы беларуса, лепей наталіць яе духоўную смагу, каб улажыць што-небудзь сваё ў скарбніцу светавой культуры, каб уліць у нашу паэзію свежыя сокі», першым прыкладам працы ў гэтым кірунку бачыў творчую постаць Каруся Каганца. «Можна пісаць і інакш — не намагаючыся падрабіцца пад народную песню, але ў народным духу, прыклад чаго даў Карусь Каганец», — адзначаў у сваім артыкуле «Забыты шлях» М. Багдановіч. Больш за тое, ён стаў і таленавітым вучнем Каруся Каганца: згадаем «вершы беларускага складу» «Бяседная», «Лявоніха», «Скірпуся», «Агата» і пад.

Карусь Каганец спрабаваў «акультурыць», наблізіць да кожнага — праз сваё перажыванне і пачуццё — беларускую народнапесенную стыхію, крануцца агульных духоўных струнаў — і ў іх поліфанічнасці знайсці найбліжэйшы гук для выяўлення свайго настрою. І Карусь Каганец змог прамовіць не толькі **ад імя** селяніна (прыклад Ф. Багушэвіча), — вуснамі пісьменніка загаварыў **сам** беларускі народ. А праз колькі гадоў маладзейшыя працягнуць яго спеў, і з'явяцца ў Янкі Купалы і Якуба Коласа вершы з аднолькавай назвай «Мужык», і новай водпаведдзю прагучыць над роднай старонкай: «Што я мужык, усе тут знаюць» і «Я — мужык, бядак пахілы»...

Першымі імя Каганцовай *«кветачкі»* — яго каханай абранніцы — даносяць нам лісты да Ганны Пракаповіч (1899 г.), а само знаёмства Казіміра і Ганны адбылося на некалькі гадоў раней (і, як відно з лістоў, Казімір паспеў ужо пасябраваць і з маці сваёй абранніцы).

Паненка Ганна Пракаповіч гасцявала тады ў вёсцы Добасня пад Бабруйскам, дзе жыла яе радня. Туды і слаў свае пісьмы (старанна выводзячы з вялікіх літар у сваім змрочным Прымагіллі і адкрытае «Ты», і кунежныя «Галубка», «Зязюлю»), без прамаруджвання атрымліваючы прыхільныя адказы.

Усё падавалася вырашаным. *«...дому сяголета, мабыць, не буду ставіць <...> , так што нам прыйдзецца ў Лісіх Норах зіму*

*празімаваці»*, — пісаў Казімір у адным з сакавіцкіх лістоў. Пісаў, дарэчы, вельмі дзіўным і арыгінальным почыркам — скорапісам ажно ці не XVII ст., з неадменнымі «ерамі» і «яцямі»... Застаецца толькі з цікавасцю ўглядацца ў гэтыя роўныя — нібыта з адбітку старога летапісу — радкі, якія захаваў нам з 1899 г. ліст Каруся Каганца да сваёй каханай, ці ранейшы, пазначаны «беразнем» таго ж года, аўтэнтычная частка якога дайшла да нас у ілюстрацыі часопіса «Наш Край» за 1928 г. (№10): *«Але Гануся хітрэнька, бытцем Амброжэя не ведае, а показываецца, што штось ведаеш...»* — углядацца ў рукапісныя літары старадаўняй кірыліцы, якія не могуць сёння перадаць кампутарныя шрыфты...

А можа, і сапраўды лёс зблытаў усе часавыя межы і перанёс гэтага чалавека ў пачатак XX ст.? Ці, хутчэй за ўсё, Неба злітавалася з Беларусі і данесла да нас гэтую жыццядайную іскрынку, — каб наноў зашугала полымя Адраджэння?..

...Апошняя вясна XIX ст. была ранняй. Увесь сакавік Кастравіцкі займаўся гаспадаркай. Прадаў сівую кабылу і старога Каштана, — апошняга стратна. Набыў дзябёлую гнядую чатырохгодку.

З братамі пілавалі бярэзнік на майстэрку. Ды, на бяду, накінуўся кашаль, работа зацягнулася, і дрэва засталося ў лесе. А тут яшчэ не было на чым і вывезці, бо коні ўсё маладыя, а каторая і была сталейшай, то неўзабаве мусіла жарабіцца. Праўда, мелася яшчэ ласуха Чорная, за якую можна было б, прадаўшы, узяць дваіх старых цягавікоў, — ды Чорную ён меркаваў падарыць Ганне...

У клопатах і неадступным суме па каханай прайшоў месяц, а ў цёплым красавіку 1899 г. маладыя пабраліся і аселі ў Прымагіллі, у тым жа ўрочышчы Лісі Норы. У той самай хатцы, нават ці можна яе так назваць — нейкай маленькай драўлянай «асунуўцы», урослай у зямлю і дамацаванай валунамі, са старой саламянай страхой, дзіравай у надхлеўі, з двума слепаватымі акенцамі, з земляной падлогай, бутлымі сценамі, з уваходам праз хлеў, дзе стаялі коні...

Але былі ў іх жыцці і ўлюбёныя абоімі вялізныя хвоі, што раслі на ўскрайку лесу, непадалёк ад хаты, — вольнымі ад працы гадзінамі Казімір і Ганна праседжвалі там у чароўнай мілосці да ўсяго жывога і вакольнага, — і быў яшчэ той кудзебны лес, а наўшыркі — зямля, іхняя і для іх!

## НА СУМЕЖЖЫ ЭПОХ
## («ПІЯНЕР БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭННЯ»)

У новае стагоддзе Карусь Каганец уступіў у Хрыстовым узросце — яму спаўнялася 33 гады. Застаўшыся апошнім магіканінам мінулага, у час народзінаў новага XX ст. ён стаў піянерам беларускага нацыянальнага руху і народным пракокам. Гэта не проста ўзвышаныя словы ўдзячнай даніны. Памяць друкаваных слоў зберагла для нас шматлікія ўспаміны тагачасных дзеячаў, чые імёны праўдзіва засведчаць сказанае: Аляксандр Уласаў, Антон Луцкевіч, Змітрок Бядуля, Вацлаў Ластоўскі, Язэп Дыла... Прывядзём толькі некаторыя ўрыўкі. «Я помню, якое сьвяшчэннае ўражаньне на нас, маладых хлопцаў, 15–17 гадоў таму назад (напісана ў 1918 г. — *А. П.*) аказаў першы беларускі верш, прачытаны нам К. Кастравіцкім... Ад барадатай прысадзістай фігуры аўтара, насіўшаго дэманстрацыйны кажух, боты і падпіразанага «чорна-рускім» поясам, веяло такой моцнай, нісакрушымай, як скала, верай, што «Беларусь трэба падымаць...», — згадваў колішні рэдактар «Нашай Нівы» А. Уласаў. У тым жа артыкуле, падрахоўваючы, ён пісаў: «У старым Менску былі тады характэрныя фігуры першых беларускіх пракокаў. Гэта Кастравіцкі і стары археолаг Татур... Гэта былі два Магікане, дзьве крыніцы, которыя перэхавалі зародыш беларускай ідэі і не далі ёй загаснуць» (Уласаў А. К. Кастравіцкі і Г. Татур // Беларускі Шлях, 1918, № 52.). Нагадаем, што сябар і паплечнік Каруся Каганца Генрых Хрыстафоравіч Татур — беларускі археолаг, гісторык, этнограф, калекцыянер. Па дакументах і іншых навуковых крыніцах ведаў усіх славутасцяў і герояў нашай мінуўшчыны, прапагандаваў яе слаўныя старонкі. Працаваў над збіраннем свайго беларускага музея і гуртаваў вакол сябе перадавую таленавітую моладзь.

Свае ўспаміны «За дваццаць пяць гадоў...» Антон Луцкевіч пачынае са згадак пра Казіміра Карлавіча: «Было гэта ў Менску, дзе мы (Антон са сваім братам Іванам. — *А. П.*) ад 1897 году хадзілі ў гімназію. <...> Ужо тады да нас, гімназістаў, прыходзіў Казімір Кастравіцкі (Карусь Каганец), які, верны традыцыі, заўсёды насіў паляшуцкую вопратку з чырвоным поясам ды нож за халявай — “на кожную прыгоду”. Ён чытаў нам свае беларускія вершы <...>, ды гутарылі мы з ім аб беларускай справе» (Луцкевіч А. За дваццаць пяць гадоў (1903 – 1928) (Успаміны аб працы першых беларускіх палітычных арганізацыяў...). – Вільня, 1928, с. 4.). «Аб нацыянальным ідэале першым пяе напярэдадні рэвалюцыі 1905 года Казімір Кастравіцкі, і яму рысуюцца абразы мінулае волі і славы беларускага

народу», — зазначыць А. Луцкевіч і ў кнізе «Пуцяводныя ідэі беларускае літаратуры».

Паэтычна-шчыра, з болем у душы адгукнецца на нечаканую смерць Каруся Каганца Змітрок Бядуля: «Пайшоў да Бога адзін з нашых найстарэйшых піанэраў беларускага адраджэньня, пісьменьнік Каганец. <…> К. Каганец меў вялікі ўплыў на ўсіх маладых беларускіх пісьменьнікаў сваім бязьмежным каханьнем да роднага краю, роднай мовы. Ён лічыцца духоўным бацькам усіх прадстаўнікоў беларускага руху <…>. Дарагі сівы наш тату! Тое, што ты пасеяў на беларускай ніве, мы будзем і далей пільнаваць і даглядаць, і твой сьветлы дух, твае сьвятыя думкі будуць нашай апорай назаўсёды...» (Бядуля Зм. (Некралог пра Каруся Каганца) // Беларускі шлях, 1918, № 49.).

Свае згадкі пра Каруся Каганца заканчвае амаль тым жа і В. Ластоўскі: «…вось тая горстачка ўспамінаў, якія захаваліся ў маёй памяці з непасрэдных гутарак з гэтым арыгінальным, дужа асьвечаным, надзвычайна чуткім, запраўдным піянерам беларускага адраджэньня» (Ластоўскі В. (Успамін…) // Савецкая Беларусь, 1928, № 115).

Не ўсе, натуральна, станоўча ацэньвалі нацыянальна-адраджэнскія памкненні Каруся Каганца. Яўхім Карскі, да прыкладу, пакінуў пра яго такое суб'ектыўнае сведчанне: «Вообще он большой сепаратист и ненавистник всего русского»…

…Новае стагоддзе прыносіць і новыя радасці (жонка падарыла першынца Янку), і новыя цяжкасці. У Лісіх Норах не хапала зямлі нават для сыноў ад другога матчынага мужа, і 1901 г. Карусь Каганец праводзіць на службе ў Менскай чайной, дзе развівае шырокую рэвалюцыйную чыннасць. У сакавіку 1902 г. яго як палітычна ненадзейнага звальняюць. Пабыўшы некаторы час беспрацоўным, ён знаходзіць занятак (на тры месяцы) у мастацкай майстэрні ў Рызе. Затым — зноў без працы. А тым часам нараджваецца другі сын Мірон.

Нарэшце ў канцы 1902 г. Карусь Каганец паступае эканомам у Менскае таварыства дабрачыннасці, дзе і праслужыць два гады, займаючыся адначасова нацыянальным і сацыяльным выхаваннем менскай моладзі, арганізуе беларускі хор і аркестр.

Вось якія словы данёс да нас ягоны «Рэферат на калядны сход беларускай грамады 1903 года»:

*«<…>Кажаце, панове, што беларус свае народнасці не знае і нічога пра яе не цяміць… Вота ж мяне гэта вельмі за сэрца чапіла, як кроў з крыві і косць з косці беларуса <…>. Яно то трохі і не так, як бы трэба было, але ўсё ж такі яны цямяць, што не маскалі і не палякі <…>.*

*Шмат хто з цяперашніх інтэлігентных юнакоў на пытанне, да якой народнасці яны сябе далучаюць, адказваюць, што яны людзі, — вышэй за ўсякую народнасць.*

*Калі яны хочуць служыць на дабро ўсяму чалавецтву, то гэта рэч — вельмі высокая і красная, але ўсё ж не разумею, каб яны былі слабодны ад нацыянальнасці. Выходзіць, што ніводзін беларус не можа быць чалавекам у поўным значэнні гэтага слова, а нібы, каб стацца чалавекам, трэба адрачыся і народу свайго, і мовы свае.*

*Па-моему, адракаюцца ад свае народнасці толькі тыя людзі, што не маюць сумлення».*

У гэты час яскрава выяўляецца празаічны талент Каруся Каганца. Адно за адным з-пад яго пяра з'яўляюцца ў газетах «Северо-Западный край» і «Минскій листокъ» апавяданні «Прылукі», «Чым болей хто мае…», «Бывалы Юр у Мінску», «Навасадскае замчышча», «Вітаўка», «Засульскае турэ», «Халера 40-га року», «Ахота віцгубернатара на вядзьмедзя», «Такая доля» і іншыя — своеасаблівыя апрацоўкі народных легендаў і паданняў ды яркія тыповыя абразкі з жыцця.

«Другога такога знаўца псіхікі і быту беларусаў, як Каганец, беларусы дагэтуль ня маюць паміж сваёй інтэлігенцыі, — адзначаў В. Ластоўскі. — Гэта асабліва кідаецца ў вочы пры азнаямленні з яго мастацкай творчасцю: з паміж усіх новачасных беларускіх мастакоў толькі адзін Каганец умеў нарысаваць сапраўдны тып беларуса…».

Паспрабаваў раскрыцца пісьменнік і ў драматургіі — у 1903 г. ім напісана народна-філасофская выкрывальніцкая п'еса «У іншым шчасці няшчасце схавана», якая адна з першых адкрывала ў нашай літаратуры тэму беларускіх Бандароўнаў: маладую дзяўчыну Марылю пан, пакрыўдзіўшы, звёў у магілу…

Але ў час, калі, як пісаў ва ўспамінах пра Каруся Каганца А. Уласаў, «самая дубовая Аляксандраўская рэакцыя і сыстэма абрусіцельства была ў поўным росквіце», калі «адазвацца гімназісту, што ён беларус, было тое самае, як… голым прайсьці па вуліцы» (Беларускі шлях, 1918, № 52), Каганцова нацыянальная прасвета не магла застацца незаўважанай — ён зноў страчвае працу, і каб хоць крыху зарабіць на жыццё, займаецца разьбою і маляваннем…

## «СКІНУЦЬ ЦЯМНОТЫ ЯРМО»

...І — насуперак усяму — яшчэ ярчэй загараецца грамадска-палітычнай дзейнасцю.

Вясной 1903 г. Іван Луцкевіч прыступіў да стварэння новай палітычнай арганізацыі – «Беларускай рэвалюцыйнай грамады» (БРГ). Але ў маі таго ж года ён быў арыштаваны за кантакты з расійскімі эсэрамі. Пасля вызвалення з турмы ў сярэдзіне таго ж года І. Луцкевіч быў высланы ў Менск. Тут і была канчаткова створана новая арганізацыя. Акрамя саміх братоў Луцкевічаў (Івана і Антона) у яе ўвайшлі К. Кастравіцкі, В. Залязей, І. Блонскі, А. Шыбуня, А. Уласаў, А. Трэпка, К. Яноўская і інш.

Карусь Каганец стаў адным з першых заснавальнікаў Беларускай Сацыялістычнай Грамады (БСГ) («пераемніка» БРГ), членам яе Менскага камітэта. Ён прыняў удзел у Першым беларускім сялянскім з’ездзе ў Менску, у другім з’ездзе БСГ, у шэрагу нарадаў. Ён дапамагаў распрацоўваць іх праграмы і рэзалюцыі.

Многія ў той час маглі бачыць на вуліцах Менска прысадзістую постаць Казіміра Кастравіцкага, гарбатага, з доўгімі, ледзь не да каленяў, рукамі, у даматканым каптане — летам, у простым кажуху — зімой, з самаробнай кульбай, з нажом у боце, чалавека, які пры сустрэчах і размовах стараўся сцвердзіць адно: «Беларусь трэба падымаць!».

Ён зноў і зноў звяртаўся да агітацыі — прамовай і вершам.

І — друкаваным словам...

12 снежня 1904 г. Мікалай II падпісаў указ, які здымаў у «дзевяці заходніх губернях Расійскай імперыі» ранейшыя абмежаванні на афіцыйнае выкарыстанне «мясцовых» моў, у тым ліку і беларускай. Адмянялася забарона друку на нацыянальных мовах...

Вялікае значэнне для папулярызацыі беларускага слова меў у той час выхад падрыхтаванага Карусём Каганцом зборніка «Казкі» — легальна, са згоды цэнзуры, у друкарні К. Пянткоўскага накладам у 5 000 асобнікаў. Ідэю выдання кнігі ўзрошчваў і Вацлаў Іваноўскі, слынны дзеяч беларускага нацыянальнага адраджэння, які пазнаёміўся з Карусём Каганцом у ягонага брата, лідскага лекара Амброзія Кастравіцкага. Амброзій Карлавіч і фінансаваў падрыхтаванае братам выданне (і гэта яго ініцыялы былі пазначаны на тытульнай старонцы: «А. К.»).

В. Іваноўскі запаліў жаданнем кнігавыдання і малодшага брата жонкі Амброзія Кастравіцкага Сцяпана Багушэўскага, на той час студэнта Ягелонскага Кракаўскага ўніверсітэта, — і нарадзілася

задума друку беларускіх кніг у Кракаве. С. Багушэўскі прыцягне да супрацоўніцтва свайго сябра з часоў гімназічнай вучобы ў Менску Мар’яна Фальскага (будучага беларускага перакладчыка прозы і аўтара аднаго з лепшых польскіх «Буквароў»).

У 1904 г. на свет з’яўляецца томік беларускіх вершаў «Песні», які прызначаўся найперш дзеля адраджэнска-рэвалюцыйнай агітацыі і таму выходзіў ананімна (зборнік складаўся з твораў Ф. Багушэвіча, А. Пашкевіч (Цёткі) і Каруся Каганца). Доўгі час лічылася, што «Песні» былі выдадзены ў Лондане. Насамрэч жа аддрукавана кніга была ў Кракаве, а да яе выхаду спрычыніліся Карусь Каганец (ягоным арыгінальным аўтарскім правапісам — з памякчальнымі апострафамі на месцы «ь» — перадаваліся «Песні»), С. Багушэўскі і М. Фальскі (апошнія выдалі ў Кракаве яшчэ кнігі «Янка Музыкант», «Да свайго Бога» і «Ведзьма»). Грошы на выданне аднаго з першых беларускіх літаратурна-мастацкіх зборнікаў атрымаў В. Іваноўскі — ад сястры сваёй нявесты, славутай піяністкі Ячыноўскай.

Усведамляючы вялікую арганізатарска-асветніцкую сілу друкаванага слова, Карусь Каганец у 1904 г. выступіў ініцыятарам выдання першай беларускай газеты. Ён згуртаваў рэдакцыйную групу, у якую ўвайшлі Макар Яўхімавіч Богдан (пра яго падрабязней — напрыканцы нарыса) і Дарафей Дарафеевіч Бохан (1878 – ?). Апошні — карэнны менчук, сын адстаўнога генерала, менскага домаўласніка. Вядомы як расійскамоўны літаратар (пісаў апавяданні, вершы, гістарычныя паэмы) ліберальна-дэмакратычных поглядаў, схіляўся да «заходнерусізму». На пачатку ХХ ст. ён актыўна супрацоўнічаў у перыядычным друку Менска, апублікаваў свой пераклад «Слова аб палку Ігаравым». У літаратурных і публіцыстычных артыкулах засведчыў сваю прыхільнасць да нацыянальна-культурнага адраджэння беларусаў. Пасля палітычна-сацыяльных катаклізмаў 1917–1920 гг. Д. Бохан жыў у Вільні.

Карусь Каганец паслаў тагачаснаму міністру ўнутраных спраў князю Святаполк-Мірскаму прашэнне наступнага зместу:

*«Осмеливаюсь считать Ваше Сиятельство белорусом яко потомка наших князей, я, бедный белорус, потомок древних бояр княжества Мстиславского, уповаю, что у Вашего Сиятельства в душе хранится искра симпатии к Белоруссии, и потому прибегаю с покорнейшей просьбой к Вашему Сиятельству оказать нам величайшую милость, исходатайствовав право издавать литературно-хозяйственную газету на белорусском языке под названием “Полесье”. Однако ж литвины, поляки, евреи имеют свои книги и газеты, а чем же белорусы хуже их?..».*

Змяняліся абставіны, і «чалабітныя» пасылаліся ўжо ў Галоўнае ўпраўленне па справах друку. Доўгі час у паперах Каруся Каганца захоўваўся спраектаваны яго рукой тытул газеты: «Сельская беларуская газета ПАЛЕССЕ, выходзіць у Менску двойчы на тыдзень». Але, на жаль, праект так і застаўся праектам: дазвол на выданне не быў атрыманы.

У 1904 г. пачалася руска-японская вайна. Разам з мабілізацыяй вайсковай адбылася і мабілізацыя ўсіх прагрэсіўна-дэмакратычных сілаў. Пашырыўся прасцяг для актыўнай дзейнасці розных партыяў і рухаў. А антываенны пафас не мог не абудзіць у паэтавай душы палымяна-абуральных радкоў і гнеўных абагульненняў:

Загудзелі лясы, боры,
Засвісталі ветры ў полі! <…>
Аб’явіў бо цар па сёлах
І па местах, і па дворах
Сабірацісь ўсім мужчынам <…>

Мы тыя бедныя рэкруты,
Гарматна мяса на вайну,
Каторых цар і воля люта
Жане за мора ў чужыну…

(З верша «На мабілізацыю».)

Пачатак бурлістага 1905 г. звязаны ў лёсе Каруся Каганца з Лідай, дзе ён атрымаў месца дзясятніка на чыгунцы Балагое – Сядлец, будоўля якой тады вялася. У Ліду Карусь Каганец перавозіць і сваю сям’ю: жонку і сыноў Янку ды Мірона.

Па краіне шырылася і расла рэвалюцыйная куламеса, ад якой ён не аддаліўся ні на крок. Простыя і даступныя кожнаму, узнікалі новыя вершы, у якіх абуджалася і пакута пакрыўджаных, і сіла абураных:

…Мы тыя, што ўсіх вас кормім,
За ўсіх вас церпімо;
Мы тыя хлопцы-радыкалы,
Што скінем цямноты ярмо.

(З верша “Які ж то вецер буйны грае…”)

Праца рабілася сапраўднай барацьбою з пастаяннымі сутычкамі, маскіроўкамі, нечаканасцямі і, на жаль, правааламі. Да першага з іх мы і наблізіліся.

У снежні 1905 г. Карусь Каганец вырашыў адведаць родных у Прымагіллі. Даўно зваў пабачыцца брат Амброзій, а тут яшчэ надарыўся спадарожнік — ужо знаёмы нам Сцяпан Багушэўскі.

Паехалі на вёску пад Койданава, сабралі там людны мітынг. Пра гэта хутка даведалася паліцыя і назаўтра раніцай наляцела на хату Кардэцкіх, дзе і схапілі «гасцей» ды пад канвоем даставілі іх у пастарунак...

Пяшчотны рэквіем па часах былой волі гучыць у апавяданні Каруся Каганца «Тры алешыны», герою якога перадаюцца псіхафізіялагічныя рысы самога аўтара: герой апавядання «сабою неказісты быў, адно вочы неяк хораша глядзелі». «Нізенькі, гарбаты <…>, ён меў непрыгожы выгляд <…>, — пісала пра Каруся Каганца Паўліна Мядзёлка. — А ў празрыстых, бы крынічная вада, вачах — уся душа гэтага чалавека. Столькі дабраты, столькі пяшчоты, пранікнёнасці, столькі яснага, спакойнага ззяння ў іх!» (Мядзёлка П. Сцежкамі жыцця. – Мн., 1979, с. 42). Як і самога аўтара, у той жа час і пры тых жа абставінах арыштоўваюць і дзецюка са згаданага апавядання. Чытаеш, і здаецца, што гэта самога пісьменніка па заснежанай дарозе вязуць у няволю: «Прайшло зім дзесяць чы болей, і прывялося <…> убачыць яшчэ таго дзецюка, пастарэлага ўжо, як ехаў адной марознай ночы па завеянай дарозе, між двух жандараў, з мястэчка на паўстанак»...

## КАБ СОНЦА ЗАГЛЯДВАЛА ЧАСЦЕЙ...

К. Кастравіцкі прасядзеў у астрозе са снежня 1905-га да траўня 1906 г., вельмі папсаваўшы і без таго не моцнае здароўе. А сам суд не адбыўся: хворым на тыфус (згодна з дакументам, які, відаць, дорага каштаваў яму) аказаўся С. Багушэўскі. З той жа прычыны адкладвалася вынясенне выраку і ў наступным 1907-м, і ў 1908-м, і ў 1909-м гг.

Пасля выхаду з вязніцы Карусь Каганец забірае сям'ю і ў 1906 г. пераязджае ў Менск, дзе яму даводзіцца вандраваць з кватэры на кватэру. Дом №6 па Сляпянскай вуліцы паблізу Залатой Горкі, дом №10 на Якаўскай, дом Трэгера на Аляксандраўскай, дом Стэфановіча на рагу Старавіленскай і Міхайлаўскай, дом Русецкіх на

Старажоўскай, дамы Манроўскага на Краснай і Сарапушчынскага на Міхайлаўскай — вось той шырокі перыметр бясхатніх тулянняў Каруся Каганца.

У Менску (ці Міньску, як ён пісаў) Карусь Каганец закончыў працу па напісанні першага беларускага (калі не лічыць, зразумела, выданняў ранейшых стагоддзяў) буквара-лемантара, так і назваўшы яго — «Беларускі лемантар, або Першая навука чытання». Кніжка пісалася хутка і з натхненнем…

Напачатку, яшчэ ў траўні 1906 г., да яго прыйшоў ліст з афіцыйнай прапановай ад піцерскай выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца». Па даручэнні кіраўніка Вацлава Іваноўскага пісаў супрацоўнік выдавецтва Вінцук Валейка (гэты і пазнейшыя лісты захоўваюцца ў Аддзеле рэдкіх кніг і старадрукаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, ф.1, воп.1, адз. зах. № 22): «<…>Хай Пан напішэ ксёнжку для дзяцей па-беларуску. <…> Толькі хай яна будзе ў 2-х часьцях, каб не надта вялікая. <…> На пачатку прысылаю 10 рублёў за работу. Хай Пан напішэ, колькі будзе стоіць напісаньне. За работу плаціць ні Войцік (г. зн. В. Іваноўскі. — *А. П.*), ні я, а беларуская выдаўніцкая суполка “Загляне сонца і ў наша ваконца”. <…> Хай Пан не баіцца пісаць, колькі вартуе Панскі труд. <…> Мо Вы, Пане, маглі б зрабіць рысункі да ксёнжкі? Добра было б. Пішыце і прысылайце першу палову ксёнжкі пад адрасам: С. Петербург, 6-я рота 10, кв. 3. Вацлаву Ивановскому».

Браты Іваноўскія разам з бацькамі жылі ў Пецярбурзе ў адным з лепшых кварталаў горада — ля Ізмайлаўскага праспекта, у доме, які належаў сям'і правадзейнага дзяржаўнага дарадцы. Бацька, Леанард Іваноўскі, працаваў у міністэрстве сельскай гаспадаркі. На той час Карусь Каганец ужо ведаў ледзь не ўсю перадгісторыю выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца»…

Малады выпускнік Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута інжынер-тэхнолаг В. Іваноўскі пасля праходжання дыпломнай практыкі ў пачатку 1905 г. вярнуўся ў Пецярбург і распачаў навуковую працу ў лабараторыі інстытута — і пачаў трызніць ідэяй стварэння беларускага выдавецтва (ён, прынамсі, ужо меў «падпольны» вопыт выдання ў 1903 г. у радзінным лідскім котлішчы — Лябёдцы — газеты «Свабода», а таксама «Каляднай пісанкі» і «Велікоднай пісанкі»). Не дачакаўшыся фундатарскай дапамогі (ад Аляксандра Ельскага і Эдварда Вайніловіча), была створана выдавецкая суполка на прынцыпах акцыянернага таварыства. 1 студзеня 1906 г. у ёй налічвалася 45 удзельнікаў з укладамі па 10 рублёў. Сабралася і ўправа з шасці сяброў-заснавальнікаў, якія ўнеслі

250 рублёў. Агульны капітал суполкі склаў 700 рублёў, што і дазволіла пачаць выдавецкую дзейнасць. В. Іваноўскі стаў старшынёю, сакратаром — пецярбургскі службовец Уладзіслаў Сталыгва, сябрамі ўправы — прафесар Браніслаў Эпімах-Шыпіла, жонка Іваноўскага Сабіна і яго старэйшы брат Юры, настаўнік школы пры лютэранскім храме Св.Пятра Уладзіслаў Калашэўскі і студэнт Горнага інстытута, ужо знаёмы нам Вінцэнт Валейка.

Каруся Каганца і самога ўжо каторы год хвалявала гэтая справа! І атрымлівалася няблага: досыць даступна, не загрувашчана лішніцай, пазнавальна і займальна, у «складовым» прынцыпе, са сваімі ілюстрацыямі да тэкстаў. Ды і стыль — як простыя добрыя парады: *«Дайней вучылі чытаць год або два, а цяпер і ў два месяцы навучыш,* — зазначаў Карусь Каганец у прадмове да свайго лемантара. — *Не паказвай зараз усіх знакаў, а так, як тут напісана: знак за знакам, і адразу вучы чытаць цэлы склад і слова, склад за складам. Ня так, як раней вучылі:* ***бэ-а – ба****, а зразу:* ***б-а – ба****. Пакуль пачнеш вучыць чытаць у новым месяцы, прачытай раду, што дробнымі знакамі напісана…».*

Карусь Каганец адразу ж, не затрымліваючы, выслаў першую частку «Беларускага лемантара…» ў Пецярбург, а праз два месяцы (у ліпені) атрымаў адказ. «Пане Казіміру! — пісаў беларускай лацінкай ужо сам В. Іваноўскі. — Часьць кніжкі для дзяцей ужо дастаў і вельмі дзякую. <…> Паночку, пішыце часта і многа, я тут ішчэ Вам матэрыялу да кніжкі пастараюся. Можа б Вы адразу маглі і рысуначак які <…> зрабіць. Вы, здаецца, і раней мелі шмат чаго напісанага, што ішло б да такой кніжкі. Давай, здаецца, у вас былі апісаны Дзяды, хаўтуры — гэта можна было б таксама ўставіць. <…> Будзьце здаровы. Ваш шчыры друг В. Іваноўскі».

Карусь Каганец адашле другую частку «Беларускага лемантара…», а праз тыдзень (!) паспее атрымаць ад В. Іваноўскага адказ, у якім змяшчаліся некалькі заўваг (па змесце кнігі) і выдавецкіх пажаданняў.

Неўзабаве «Загляне сонца…» выпусціць у свет першы беларускі падручнік Каруся Каганца для дзяцей, і беларускія кнігарні, як затым апавяшчацьмуць усе выданні ад «Нашай Нівы» да «Крывіча», будуць прапаноўваць сваім чытачам усяго за 6 капеек «польскімі і рускімі літэрамі» (лацінкай і кірыліцай) «Беларускі лемантар, або Першую навуку чытання».

Выдавецтва прышле аўтару некалькі сігнальных асобнікаў кнігі, і яны прыдадуцца ў навучанні яго сынам Янку і Мірону. У лісце-падзяцы выдаўцам Карусь Каганец пажадае, каб сонца прасветы як

мага часцей заглядвала ў хаты беларусаў. І яно, разбадзёранае, у хуткім часе асвеціць старонкі і «Першага чытання для дзетак беларусаў» Алаізы Пашкевіч (Цёткі), а ў 1907 г. падорыць досыць аб'ёмную (у 68 старонак) кнігу «Гутаркі аб небе і зямлі», перакладзеную і апрацаваную Карусём Каганцом і С. Шаўлоўскім (мяркуюць, што апошні — псеўданім В. Іваноўскага). «Гутаркі...» былі трэцяй кнігай, з якой «Загляне сонца...» ішла ў зрабаваны беларускі свет, здабываючы свайго чытача...

...А ў сям'і Кастравіцкіх нараджаецца малодшая дачка Мілена.

Вясёлыя, жыццярадасныя матывы прабіваюцца ў Каганцовых вершах, але... не надоўга. Радзей змочваецца ў атрамант яго пісьменніцкае пяро ў 1907 г., зусім не дайшло да нас вершаў ці празаічных твораў, пазначаных 1908 г. На яго пачатку Карусь Каганец атрымаў месца ляснічага ў Патоку каля Клічава на былой Ігуменшчыне.

Валадарства родных краявідаў, раздолеч Любашанскіх пушчаў графа Патоцкага захопліваюць яго ў сваю ратавальную стыхію. З недзе пачутага, падслуханага ў гэты час узнікае апавяданне-абразок «Забойства Захаркі», героі якога — «быўшыя стральцы графа Патоцкага» — мелі, бясспрэчна, сваіх прататыпаў.

Вандроўкі і новыя сустрэчы даюць шмат патрэбнага матэрыялу — разгараецца Каганцовае «мовазнаўчае полымя». Ён жыў сярод простых людзей, пераважна сялян, і гэта асабліва спрыяла працы. У частцы папер, якія захоўваліся ў розных архівах, у Каруся Каганца, па сведчанні М. Каспяровіча («Маладняк», 1928, №10, с. 95), было звыш тысячы чарнавых запісаў аўтэнтычна-народных слоў, згрупаваных як па сэнсе, так і па алфавіце. З найбольш цікавых яго запісаў можна адзначыць назвы звяроў і дрэў, паняцці сваяцтва: *залоўка (залвіца), дзевер, сястрэніца і сястрэніч, братаніца і братаніч, стрый (стрэчны)* і інш.; розныя назоўнікі: *гал, земец, зубель, цамак, пачынак, подкур, талька, тонь, стрынгаль, цемравін, цэд, чмыс;* прыметнікі: *галюзны, зазрывы, зяхраты, карабаты, кваплівы, мнявы, мярэжаны, панявы, сьмялявы, тужны, чмары*; дзеясловы: *верадзіцца, зырыцца, майначыць, смычыць...*

Адначасова са «зборам слоў» Казімір Карлавіч запісваў народныя песні, казкі, прыказкі, абрады, гульні. Яго фальклорныя штудыі мелі не толькі практычнае значэнне для літаратурна-мастацкай дзейнасці (шмат што ён творча пераўзнаўляў), але і навуковае, бо ўсе тэкстуальныя адзінкі запісваліся ў фаналагічных адметнасцях, з пазнакамі месца пашырэння ды іншых неабходных звестак.

Падыходзячы да моўных пытанняў творча, як філолаг-самавук, ён адстойваў думку аб тым, што *«беларуская мова е адна з*

*найстарэйшых і найчысцейша з усіх моваў славянскіх: у ёй захаваліся яшчэ ўсе хвормы старыя пры спражэнні і пры складненні, і яна можа служыць як бы ключом для ўсіх славянскіх моваў; яна дзеліцца на многа гутарак, але галоўным чынам на дзве: на паўночну, чы беларуску, і палуднёву, чы палеску».*

Карусь Каганец спрабаваў укласці і беларускі алфавіт. Яго праект — гэта спроба вылучыць найбольш прыдатныя для перадачы беларускіх гукаў знакі, аналізуючы кірылічныя, лацінскія і арабічныя графічныя сістэмы. Захаваўся чарнавы варыянт распрацовак Каруся Каганца, які пачынаецца разважаннямі аб найважнейшым прынцыпе, на якім павінен грунтавацца новы алфавіт — на прынцыпе найбольш поўнай адпаведнасці паміж гукамі і літарамі: *«Даўно людзі стараюцца наладзіць пісьменнасьць так, штобы яна была як можна прасьцейша, а затым і лягчэйша для навучаньня. Адно яны разумеюць, што чым у абэцадле меней знакаў, то яно лягчэйшае, а па майму разуменню трохі не так, бо калі мала знакаў зычных, то на адзін зык прыходзіцца ставіць колькі знакаў, як, прымерам, у англікаў, французаў. Да навошта далёка шукаці, калі ў нашых суседзяў палякаў, калі трэба паставіць х, ч, ш, то мусіма пісаці ch, cz, sz, што дужа затрудняе навуку граматы. Калі бо прыняці на ўсякі зык асаблівы знак, то хоч будзе трудней трохі наўчыцца гэтых знакаў, но пісаці ўжо будзе шмат лягчэй. І славянскае абэцадла і е найлепшае з усіх еўрапейскіх, бо яно падходзіць да ўсіх славянскіх гутарак, адно пачамусь закінулі, а пільнуючыся якойсь-та моды, стараюцца пісаці латынскімі знакамі, каторыя ні да адной з цяперашніх моваў не падходзяць, а тым болей да беларускае мовы, катора багата зыкамі».*

За аснову свайго алфавіта Карусь Каганец узяў рускі варыянт традыцыйнае кірыліцы, а таксама прапанаваў і тры новыя літары: «ε», «γ», «». Апошнюю, напрыклад, — для перадачы гука «ц» на месцы этымалагічнага мяккага «т».

Карусь Каганец адзначаў і неабходнасць уводу асобнай літары для дыграфа «д», якое *«беларусы найбольш гаворачь востра, з прысвістам, і цяперашнія пісьменнікі пішуць **дз**».*

Самавук-навуковец уклаў і граматыку беларускай мовы, часткі якой захаваліся ў чарнавых паперах Каруся Каганца, некаторыя ж тэрміны і азначэнні — як і яго вопыт стварэння алфавітнай сістэмы беларускай мовы — увайшлі ці яшчэ могуць увайсці ў сучасныя граматыкі і правапіс.

Варта прыгадаць хоць бы пашыранае паседжанне творчай і навуковай інтэлігенцыі ў 1993 г. (Рады Саюза пісьменнікаў Беларусі і супрацоўнікаў Акадэміі Навук) па праблемах актывізацыі дзейнасці дзяржаўнай Правапіснай камісіі і Кантрольнай інспекцыі па ўрэгуляванні пытанняў беларускай мовы. У гаворцы, сярод іншых, прынялі ўдзел народныя пісьменнікі Беларусі Янка Брыль, Васіль Быкаў, Іван Шамякін, народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, дырэктар Інстытута мовазнаўства АН Беларусі Аляксандр Падлужны, літаратар, доктар філалагічных навук Аляксандр Яскевіч. Апошні ў сваім дакладзе «Правапіс: вяртанне ці ўсё ж удасканаленне» між іншага адзначыў: «Не знята яшчэ і сёння праблема ўзбагачэння нашага алфавіта, якую ўзнімаў хай сабе і самавукам Карусь Каганец, і, у прыватнасці, распрацоўка лігатур для больш зручнага абазначэння афрыкатаў «дз» і «дж», а для апошняй дык і, магчыма, удакладнення гукаспалучэнняў… Зноў жа пытанне — як пазначаць пазіцыйную мяккасць на пісьме. Ва ўсякім выпадку — толькі не ерам (ь). Нам мог бы тут прыдацца вопыт Каруся Каганца, які ўважліва вывучаў славянскую, лацінскую, арабскую і іншыя алфавітныя сістэмы, шукаючы прыдатныя для ідэнтыфікацыі беларускіх гукаў знакі <…>. Адораны незвычайным талентам самавук адчуваў усю важнасць паўнаты нацыянальнай алфавітнай сістэмы і звязанага з ёй перыядызму, што пропуск, недахоп у ім патрэбных літар старажытнай алфавітнай шкалы будзе скоўваць мову на гукавыя адценні, патэнцыяльна аслабіць яе энергію. З прапанаваных ім знакаў <…> мы б маглі выкарыстаць яго знак мяккасці (')» (Літаратура і мастацтва, 1993, 29 мая – 4 чэрвеня).

А стагоддзе таму праз недастатковую распрацаванасць і ўнармаванасць беларускай мовы ў Каруся Каганца ўзнікала шмат рознагалоссяў і спрэчак з выдаўцамі і сябрамі-літаратарамі. На гэтай глебе ўзраслі былі некаторыя пярэчанні з В. Іваноўскім, а таксама рэдакцыяй «Нашай Нівы» — і не толькі па алфавітным пытанні, але і адносна гаворкі, якую належыць узяць за аснову літаратурнай мовы: чорнарускую ці беларускую…

«Каб выявіць творчы геній Беларусі, каб выведаць яе жыцьцяздольнасьць, Каганец кінуў вокам у глыбіню народнай душы, — адзначыў у 1928 г. Змітрок Бядуля. — Мова, быт, народная творчасьць, змаганьне за волю народу былі шляхам жыцьця аднаго з стрэйшых песьняроў беларускага адраджэньня. Каганец пісаў граматыку беларускай мовы яшчэ тады, калі друкаваць беларускія кніжкі было забаронена царскай цэнзурай» (Зьвязда, 1928, 20 мая). А праз 60 гадоў Алег Лойка падагульняў: «Пісьменніка ў ім перабіваў не

толькі мастак-жывапісец, графік, але і вучоны, а лепш сказаць — педагог, асветнік. Карусь Каганец разумеў, што перш чым ствараць літаратуру, трэба выхаваць чытача, трэба проста мець распрацаваныя граматычныя нормы мовы, агульную беларускую літаратурную мову, якую б разумелі жыхары любога кутка Беларусі. І таму адным з першых яго ўкладаў у тое, што назавуць беларускім адраджэннем, быў "Беларускі лемантар", выдадзены яшчэ ў 1906 г. — першы беларускі лемантар. Была такім укладам і "Беларуская граматыка", а часткова і спробы скласці ўласна беларускую азбуку. Пры гэтым Карусь Каганец выявіў несумненныя мовазнаўчыя здольнасці, шырокае веданне беларускай народнай мовы» (Лойка А. А. Гісторыя беларускай літаратуры. Ч. 2. – Мн.: Вышэйшая школа, 1989, с. 395).

## БЕЛАРУСКІ КАБЗАР

Увосень 1908 г. К. Кастравіцкага пераводзяць па службе ў Дулебы, каля мястэчка Бярэзін (цяпер — Беразіно Мінскай вобл.). Сям'я і праца ў лесе займалі большасць часу.

А яшчэ – праца мастака. Карусь Каганец дэталёва апіша выхадцаў з тутэйшых мясцінаў у сваім навукова-папулярным нарысе «Нашыя птушкі», а таксама ў наступным творы (назва, на жаль, не захавалася): *«Дулеб высокага росту, стройны, каравокі, з невялікаю чарняваю барадою, у летняй белай дулебскай світцы, у сіняй з зялёнымі кантамі шапцы з гербам і з бляхаю на рэмені, з торбаю з ласовых лапак, катора вісіць у яго з левага боку, з калітою і нажом пры поясе і са стрэльбаю за плячыма <...> ідзе ў падар, дзе ліпнёг слаўны падняўся, і любуецца ён, расхінаючы высокія, гладкія ліпкі, каторыя мяккім сваім лістам ласкочуць яго па твары...»* (Паводле цытацыі М. Каспяровіча // Маладняк, 1928, №10, с.94).

...Неяк сям'ёй агаралі зіму, правялі вясну... Памяталіся яшчэ некалькі «спраў» з жандармамі — то за «крамольные речи», а то і за простае заступніцтва.

Падтрымаў ліст з Пецярбурга ад В. Іваноўскага, які перадалі Каганцу на пачатку чэрвеня.

«Паважаны Пане! — значылася лацінкай на цяпер ужо «фірмовым» бланку выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца». — Ці не ўзялі б зрабіць нам окладку кнігі «Другое чытанне дзетак (слова "дзетак" двойчы тлуста закрэслена. — *А. П.*) беларусаў»,

пяром, чорным тушам на белай паперы <…>, каб засталося месцэ надрукаваць:

**Другое чытанне для Беларусаў**
**Напісаў Якуб Колас.**

<…> часу на работу 6 нядзель <…>

Просім ураз жа адпісаць, ці возьміцеся за гэту работу і ці нашы варункі Вам падходзяць.

Ваш В. Іваноўскі.»

Нейкая нечуваная радасць абудзілася ў сэрцы. Ён бачыў, што ўжо сабралася вялікая сіла, што яна зможа куды больш, як некалі… Даўно ў расчыненае акно зазірала чэрвеньская ноч, а Карусь Каганец, схіліўшыся над самаробным сталом, штось карпатліва выводзіў на белым аркушы.

Ён так і заснуў, падклаўшы пад галаву спадыспад сваёй цвёрдай далоні. А прачнуўшыся, крытычным позіркам агледзеў зроблены для выдавецтва малюнак вокладкі: на зімнім прылеску сцішылася хатка — яго цяперашняя леснічоўка, на першым плане — сын Янка, з кніжкамі пад пахай, сур’ёзна і ўпэўнена ўзіраецца ў будучага чытача Коласаўскага «Другога чытання для Беларусаў».

На другім аркушы застаўся накід верша, які Карусь Каганец меркаваў прысвяціць «Нашай Ніве»:

Хоч і скіба урадліва
І расу Бог пасылае,
А засохла наша ніва,
Бо ў нас цемра скрозь вітае.
Схамянемася мы, братцы,
Ды імемась як хто можа
У сваёй зямлі капацца!
А Бог вышні нам паможа:
І узыдзе наша зерне,
Зерне свету, і дасць колас…

А ў верасні 1909 г. з-за сваіх непахісных перакананняў і за агітацыю-прасвету сярод сялянаў Карусь Каганец у які ўжо раз страчвае службу і, пакінуўшы сям’ю ў Бярэзіне, падаецца ў Вільню, да святых муроў беларуска-крывіцкай мекі.

Беларускія гурткі, кнігарні, музеі, «Наша Ніва», у рэдакцыі якой усю ноч прагаварыў з В. Ластоўскім… Затым… Дадзім слова сведку — таму, хто не толькі бачыў, але і ўзяў Каруся Каганца пад свой дах: Міколу Шылу, настаўніку, сябру Беларускай Сацыяліс-

тычнай Грамады, які ўдзельнічаў у выданні «Нашай Нівы», — і прачуемся ягоным уражаннем аб сустрэчы з Казімірам Карлавічам.

«<…> У Вільню, — прыгадае М. Шыла амаль праз тры дзясяткі гадоў, — прыехаў Карусь Каганец. Прыехаў ён як і заўсёды хадзіў — у кажуху і беларускай сьвітцы. Сьвітка была падпяразаная рэменем, на якім вісеў прывязаны да раменьчыка нож і шабалтас. Спакойная, зраўнаважаная гутарка яго рабіла моцнае ўражаньне. Ягоны выгляд — малы рост і горб, вялікая галава з пасівеўшай бародкай і жывымі, пранікліваімі вачыма — цягнуў да сябе кожнага…» (Шыла М. Мае сустрэчы // На суд гісторыі: Успаміны, дыялогі. – Мн., 1994, с. 68).

У дзень прыезду Каруся Каганца ў Вільню пазнаёміўся з ім і Янка Купала, кожны вольны вечар наведваў яго на кватэры Шылы — на Набярэжнай, каля шпіталя Св. Якуба. І на якія б тэмы не распачыналася гаворка, усё зводзілася да беларускага жыцця.

Былі яшчэ сустрэчы і ў час падрыхтоўкі беларускай вечарынкі, у праграме якой планаваліся танцы пад кіраўніцтвам І. Буйніцкага, пастаноўка п’есы М. Крапіўніцкага «Па рэвізіі» і выступленне хора кампазітара Л. Рагоўскага, — які напісаў на словы Каганцовага верша «О Божа, Спасе наш…» цудоўную музыку (згаданая песня-гімн вядомая і пад назвай «Наша малітва»).

Цытуючы «Нашу малітву», Аляксандр Уласаў згадаў, што гэты «першы беларускі верш», прачытаны яму ў юнацтве, зрабіў на яго «моцнае свяшчэннае ўражанне» (Беларускі шлях, 1918, №51). А Янка Купала, калі пісаў аб беларускім нацыянальным гімне, назваў гэты верш першым (артыкул «Справа беларускага нацыянальнага гімна»).

Дзякуючы кампазітару Л. Рагоўскаму верш «Наша малітва» стаў шырокавядомай песняй, рэлігійна-нацыянальным спевам, які з пачатку XX стагоддзя дажыў да нашых дзён: з нотамі «Наша малітва» змешчана ў «Беларускім духоўным сьпеўніку» (Вільня, Лондан, 1980–1990) і можа выконвацца любым прафесійным хорам.

Натуральным з’яўляецца нараджэнне ў Каруся Каганца ў гэты час (1910 г.) і аднаго з найлепшых вершаў «Кабзар», які строгі ў крытычных ацэнках М. Багдановіч назваў «рэччу самароднай, веючай народным духам і пакідаючай моцнае ўражанне» (артыкул «Забыты шлях»). «Цэнтральным героем лірыкі Каруся Каганца стаў лірнік, кабзар — вобраз, у якім выявілася паэтава разуменне ролі і месца песняра ў жыцці народа, своеасаблівая паэтызацыя Карусём Каганцом сябе як паэта-будзіцеля. Разам з тым верш “Кабзар” — найбольш гарманічны лірычны твор паэта, найбольш чысты ўзор яго песенна-рамантычнага стылю, своеасаблівы пашпарт Каруся Каганца

як лірыка», — сцвердзіў і А. Лойка (Гісторыя беларускай літаратуры. Ч. 2. – Мн., 1989, с. 396).

## У СУПРАЦІВЕ «МОДНЫМ ШЛЯХЦЮКАМ»

Усю зіму (1909–1910 гг.) Карусь Каганец працуе ў рамесніцкай школе пры касцёле Св. Сцяпана. І цяжкія ўмовы — неадступна з ім. Малы і сыры пакой, які выдзелілі яму ксяндзы, холад і матэрыяльныя нястачы яшчэ больш аслабляюць здароўе. Ды ці многа чаго патрэбна было Каганцу, каб свяціць і ў гэтым волкім пакойчыку? Дзесьці тут стварае ён найвядомую сваю скульптуру — драўлянае ўкрыжаванне Хрыста, амаль у метр вышынёй, афарбаванае ў белы колер; ручнік на поясе Ісуса быў аздоблены беларускім народным арнаментам. Уся фігура атрымалася вельмі партрэтнай і нагадвала ўлюбёны Казімірам Карлавічам тып беларуса...

На віленскі перыяд прыпадае і стварэнне Карусём Каганцом «Моднага шляхцюка» — п’есы, якая стала выдатнай з’явай у гісторыі беларускай літаратуры і культуры. Самым лепшым творам пісьменніка назаве яе ў сваёй «Гісторыі беларускае літаратуры» М. Гарэцкі.

«Бытавая камедыя ў адной дзеі» першая, бадай, узняла ў нашай драматургіі праблему здрады нацыянальнаму, роднаму. Карчэўшчыкі (так — Карчэўшчык — звалі адмоўнага «шляхцюка») былі ўсюды: і ў Вільні, дзе спрабавалі ўвайсці ў «культуру» праз польскія мову і звычаі, і ў Менску, дзе выбіралі расейскую «матку». Яны няўмольна карчавалі сваё спрадвечнае, «тутэйшае», беларускае.

Адметнымі бачацца першаштуршкі да напісання п’есы. Рамесніцкая школа пры касцёле Св. Сцяпана, дзе працаваў Карусь Каганец, была арганізавана Эндэкцыяй (польскай нацыянальна-дэмакратычнай партыяй) з яскравымі паланізатарскімі мэтамі. Дзяцей беларускай беднаты набіралі ў закрыты інтэрнат дзеля таго, каб узгадаваць з іх нацыянал-палякаў і адданых каталікоў. Польскія ідэолагі на Беларусі разумелі, што іхняе панаванне ў краі без паслужных папіхачоў сярод працоўных мас не будзе мець сілы, і таму ўкладалі значныя сродкі для маральнай і псіхалагічнай пераробкі беларусаў: адкрываюцца адпаведныя школы, выдаюцца падручнікі. Такая палітыка была разлічана ў першую чаргу на народную цемнату, дзякуючы якой і сапраўды ўдавалася падмяніць рэлігійную сутнасць нацыянальнай: калі ты каталік — значыць, ты паляк…

Згаданая рамесніцкая касцёльная школа ў Вільні была адным са звёнаў такой палітыкі. І Карусь Каганец, неўтаймоўны змагар-

асветнік, уладкаваўшыся ў яе, арганізоўвае там гурток з лепшых хлопцаў, сакрэтна водзіць іх на сустрэчы і гутаркі ў беларускія асяродкі: «Нашу Ніву», да братоў Луцкевічаў, Янкі Купалы, Аляксандра Уласава, Ядвігіна Ш., Язэпа Драздовіча, Сяргея Палуяна…

У гэты час нараджаецца і вобраз «моднага шляхцюка» Пранцішка Карчэўшыка, апалячанага «тутэйшага» дзецюка, якога выкрывае і з якога насміхаецца ў п’есе беларуская моладзь…

«Модны шляхцюк» — першая прыступка беларускай драматургіі да Купалаўскіх «Паўлінкі» і «Тутэйшых». А яшчэ — і празаічных герояў Якуба Коласа, на што зважалі яшчэ літаратуразнаўцы пачатку ХХ ст. «Дубейка — тыповы памочнік пісара, які разумее сваю «інтэлігентнасць» зусім так, як разумее сваю «панскасць» модны шляхцюк з камедыі Каганца», — адзначыў М. Гарэцкі, аналізуючы аповесць Якуба Коласа «У палескай глушы». Такія ж паралелі правёў ён і да Купалавай «Паўлінкі»: «Гэты пан (Адольф Быкоўскі. — *А. П.*) — духоўны брат Каганцовага “моднага шляхцюка”».

«Усе яны (драматычныя творы Каруся Канца) сьведчаць аб вялікіх магчымасьцях, якімі валодаў пісьменьнік: ён добры назіральнік быту, чулы сэрцам чалавек і добры псыхолёг <…> якая сакавітая, а і простая разам мова яго гэрояў», — канстатаваў у свой час Язэп Дыла.

У тым жа, 1910-м, годзе літаграфічным спосабам накладам у 400 экзэмпляраў п’еса «Модны шляхцюк» выйшла асобным выданнем. Ёй пачала суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца» рэпертуарную серыю сцэнічных твораў. Гэта быў першы крок насустрач патрэбам маладых нацыянальных аматарскіх тэатральных калектываў (а іншых на той час і не існавала), і значны сродак натхнення і дапамогі беларускаму тэатральнаму руху.

27 траўня 1910 г. «Наша Ніва» ўжо давала станоўчую ацэнку п’есе і спектаклю «Модны шляхцюк» у выкананні трупы Ігната Буйніцкага. Гастролі адбыліся ў Вільні, Полацку, Менску, Койданаве, Радашковічах, Слуцку, Асіповічах, Барысаве, Бабруйску, Жлобіне. Першыя выступы тэатра Францішка Аляхновіча ў лютым 1916 г. пачаліся паказам «Моднага шляхцюка». Беларускі дзяржаўны тэатр БНР у Менску свае гастрольныя падарожжы пачынаў з гэтага спектакля…

І пастаноўкі адбываліся ў перапоўненых залах і — на лепшых сцэнах. Як, да прыкладу, выступы акторскай трупы пад кіраўніцтвам І. Буйніцкага 25 і 27 чэрвеня 1911 г. у зале галоўнага менскага гатэлю «Парыж» на цяперашняй Плошчы Свабоды. Аўтар «аншлажнай» п’есы быў у тыя дні за некалькі хвілінаў хадзьбы ад месца пастаноўкі, але прыйсці — не мог!..

Няўмольны лёс зноў зрабіў з творцы вязня. Вясной 1910 г. К. Кастравіцкага судзіла Віленская крымінальная палата ў Менску, куды ён прыехаў зусім хворы і ледзь жывы. Атрымаўшы год «крэпасці» пасля судовай расправы, да адбыцця тэрміну Карусь Каганец прабыў з дзецьмі і жонкай у Бярэзіне. А з 27 ліпеня 1910-га быў за мурамі «Пішчалаўскага замка»...

## ТУРМА: СА СВЯТЛОМ БОЖЫМ

Менская турма, пабудаваная ў 1825 г., знаходзілася на ўскраіне тагачаснага горада — на ўзвышку ў Раманаўскім прадмесці. Сваю назву «Пішчалаўскі замак» яна атрымала ад прозвішча архітэктара Пішчалы, які і спраектаваў будынак у форме гатычнага замка…

У ім адбывалі пакаранне паплечнікі Канстанціна Каліноўскага (магчыма — і бацька з дзядзькам Каруся Каганца), а таксама многія беларускія пісьменнікі, грамадскія і культурныя дзеячы. За напісанне рэвалюцыйных пракламацый і ўдзел у паўстанні 1863–1864 гг. адседжваў тут тэрмін пакарання Вікенцій Якуб Дунін-Марцінкевіч (1864–1865). Тут 5 жніўня 1863-га, калі царскія апрычнікі вялі на расстрэл «каліноўца» Янку Жмачынскага, з акна сваёй камеры Каміла Марцінкевіч кінула пад ногі героя букет кветак…

Вязнямі «Пішчалаўскага замка» былі Алесь Гарун (1907), Якуб Колас (1908–1911). …І герой гэтага нарыса, сын паўстанца 1863 г. Карусь Каганец, як і пасля яго (парадоксы беларускай гісторыі!) — многія вядомыя літаратары, пачынаючы ад Ларысы Геніюш…

Развітаўшыся з сям'ёй, пабачыўшы перад расстаннем блізкіх сяброў, Карусь Каганец у сярэдзіне ліпеня 1910 г. выбраўся ў Менск. Апошнія дні на волі ён праводзіў у Антона Апалінаравіча Шабуні, даўняга таварыша, менскага адваката — гэта яго адрас захаваецца на лісце Казіміра Карлавіча да жонкі ад 16 ліпеня: «прис[яжный] повер[енный] Шабуня. Преображенская, дом Русецкой», гэта ён дапаможа Каганцоваму Янку ўладкавацца на вучобу ў менскую гімназію, урэшце, гэта яны — Карусь Каганец і А. Шабуня — першымі з Менску ўступілі ў Беларускую Рэвалюцыйную Грамаду і ахвяравалі распачатай справе ўжо не першы год…

Жонка ж гасціннага гаспадара — Эмілія Іванаўна — была роднай сястрой Івана і Антона Луцкевічаў. Яна, дарэчы, замацуе звяно стасункаў паміж Карусём Каганцом і Максімам Багдановічам, які пра пісьменніка ведаў толькі па рэдкіх (на старонках друку) творах, нягледзячы на што часта ўзгадваў у сваіх крытычных

артыкулах. Яна, Эмілія Шабуня з роду Луцкевічаў, будзе доўга распавядаць Максіму пра Каруся Каганца, калі той летам 1911 г. наведае хутар яе дзядзькі Вацлава Лычкоўскага непадалёк ад Ракуцёўшчыны.

М. Багдановіч прысвяціў песняру-адраджэнцу верш, які 11 сакавіка 1910 г. надрукавала «Наша Ніва» і які ўвайшоў у славуты зборнік «Вянок»:

**КАГАНЦУ**

Змоўк пясняр, затаіў свае песні,
Ён іх болей ужо не пяе.
Але рвуцца яны, і калісь на прадвесні
Лёд халодны ў душы пад напорам іх трэсне,
І струёй лынуць вершы з яе.

Гэтак часам уходзіць у землю крыніца,
Дзесь у нетрах таемна бяжыць,
Але мусіць урэшце на волю прабіцца,
Шмат яшчэ па зямлі будзе ліцца-каціцца
І радзімаму краю служыць.

«Змоўк пясняр, затаіў свае песні»… І не дзіва: у турме — не да співаў…

Трапіць жа ў яе дзеля адбыцця пакарання на той час было няпроста — праз перапоўненасць! *«Дагэтуль яшчэ не дабіўся, каб мяне пасадзілі»*, — нават з нечаканай ірoніяй успрымаюцца сёння гэтыя радкі пісьменніка з яго ліста да жонкі (тут і далей лісты Каруся Каганца да жонкі цытуюцца па: Каганец К. Творы. – Мн., 1979).

…У той 27 дзень ліпеня 1910 г. ён доўга ішоў ліповымі прысадамі прыдрамалага ў спёцы горада, нібы знарок выбіраючы гэты — акаймаваны шацістымі дрэвамі — шлях. З распешчаных суквецця ў, да якіх клапатліва заляцаліся пчолы, праз слодычна-гаманкое мроіва высокае сонца кідала яму да ног залацістыя букеты-промні…

Праз уваходны калідор, выразаны ў двухпавярховым будынку турэмнай канцылярыі, яго ўвялі ў прасторны двор. Вакол узнімаўся масіўны мур, па якім са стрэльбай у руках хадзіў малады жаўнер. Далей, у глыбіні, стаяў пануры «замак» у чатыры паверхі, «дааздоблены» чатырма круглымі вежамі па баках — там месціліся адзіночкі для асуджаных на смерць.

Мы падрабязна ведаем турэмны расклад Каруся Каганца — збярогся яго ліст да жонкі, у якім апісаны дзень «пішчалаўскага» вязня.

Ён прачынаўся рана — а 6-й гадзіне — і, крыху паляжаўшы, пачынаў крышыць галубам чэрствыя скарынкі, што заставаліся ад учарашняй вячэры. Потым, як адкрывалі камеру, мыўся і снедаў. Далей была паверка, пасля якой ён браўся за чытво ці пісанне. Затым — прагулка па перыметры двара, абед, «вольны» час. Перад вячэрай — другая паверка.

Доўгія вязенскія дні Карусь Каганец змог расквеціць толькі творчай працай. На працягу ўсяго астрожнага побыту ён шмат маляваў — па ранейшых задумах, па просьбах-замовах сукамернікаў. *«Малявацъ я малявау усё найболей беларускія тыпы, адно — два малюнкі з турэмнага жыцця, а то нарысаваў 12 рысуначкаў Якубу Коласу да яго твораў»*, — апавядаў ён у лісце да жонкі.

У той час будучы народны пясняр і класік нацыянальнай літаратуры Якуб Колас быў таксама вязнем «Пішчалаўскага замка» — і, зразумела, не па злачынна-крымінальнай справе…

Лісты ад родных і знаёмых — рэдкія «госці» ў турме — былі вялікай радасцю. Першае пісьмо ад жонкі ў час зняволення ён атрымаў у нядзелю, 1 жніўня. Вось толькі пісала жонка часткова па-польску, часткова лацінкай па-беларуску, праз што абвастрыла пільнасць турэмная цэнзура. Настрой у жонкі быў кепскі, і тое турбавала і непакоіла больш за ўсё. *«Чаму ты падаеш духам і пішаш так нявесела, ты б павінна і мне бодрасць паддаці, а не адбіраці той, якая ё. Я ж бо маю надзею, што вярнуся да вас здароў і што зажывема лепей, як дагэтуль жылі»*, — мусіў супакойваць яе Карусь Каганец.

Напрыканцы жніўня на спатканне прыйшоў старэйшы сын Янка — ён прытуліўся ў Шабуняў і меркаваў паступаць у гарадское вучылішча, — і адразу ледзь не расплакаўся. Міхась Кардэцкі, які сядзеў у адной камеры з Карусём Каганцом і па той жа справе, перадаў тады хлопцу 10 зэканомленых рублёў і кавалак цукру…

Сум браў і па астатніх дзецях. *«Мірко, мой даражэнькі, сыночак ты мой любенькі! Як ты там? Хочацца мне пабачыць цябе, Галюшку і Міленьку, ды нельга. Сяджу я за сценамі, за мурамі, за жалезнымі варотамі, і сядзеці мне яшчэ доўга…»*, — пісаў ён дадому — і ў прыкрым балючым одуме выводзіў свой адрас: *«Минск. губ. Крепостному Казимиру Карловичу Костровицкому в тюрьме»*. Так, ён быў «крепостнымъ», а ў асуджаных да зняволення ў крэпасці, на радасць, быў крыху лягчэйшы рэжым: яны атрымлівалі 10 капеек у

дзень на яду, самі гатавалі, мелі самавар, камера ў іх зачынялася толькі ноччу…

Не на дабро наваліліся кепскія сны пра дзяцей, а да ўсяго — ад жонкі брата Амбрози́я прыйшла вестка, што «Галюшку хочуць узяць на выхаванне якоесь панства»…

Пагоршылася і астрожнае жыццё. Наступіла восень, у камеры паболела людзей, стала пыльна, вокны адчыняць забаранілі. Дзень пакарацеў, а прагулка была адна…

І па-ранейшаму, стомлены і сумны, кожную новую раніцу ён прачынаўся а шостай і чакаў абуджэння званоў нядаўнаўзведзенага Чырвонага касцёла, зачаравана прыслухоўваючыся да строга-велічных і ўрачыста-спакойных гукаў, і ў яго душу, збалелую і стомленую, пачало ўлівацца святло Боскай праўды, — у які ўжо раз да пакутніка прыходзіў збавіцель-ратавальнік...

У паэтычнай ліры Каруся Каганца абуджаецца струна новага, клерыкальнага ладу. Толькі чуць яе доўгія дзесяцігоддзі мы не мелі магчымасці. Вершы згаданага плану то знікалі, то перахоўваліся, то «не заўважаліся» даследчыкамі.

З твораў Каруся Каганца рэлігійнай тэматыкі трэба назваць вершы «Устань, народ, прачухайся...», «Купалле (лета)», «Дзяды (восень)», «Каляды (зіма)», «Юр'е (вясна)», «Аб долю сям'і», «Малітва вячэрняя», «Малітва ранняя», а таксама невялікую паэму «Вялікі чацвер», якая псіхалагічна ўзнаўляе біблейскі сюжэт аб ахвяраванні сабой Ісуса Хрыста. Перад намі — добраахвотны выбар Бога, які *«свету соладзь ўсю да краю // мог бы сабе смакаваці»*, але які дзеля выратавання чалавецтва аддае сябе на жахлівае пакаранне:

І вот у страху і трывозі,
Збалеўшы целам і душой,
Прымаў ён чару з рук Яговы,
Украй напоўнену тугой…

Хрыстос паўставаў перад чытачом «ачалавечанай» асобай, якой таксама ўласцівы і боязь смерці, і пакуты горычы. Але тое не прыніжала, а, наадварот, яшчэ больш узвялічвала і ўвекавечвала Яго подзвіг, — у якім асацыятыўна маглі прачытвацца і ўчынкі самаадданай дзейнасці Каганцовых таварышаў па агульнай барацьбе з «ненавісцнай цемрай». Як, зрэшты, і лёс самога Каганца…

Тэма Бога і ўвогуле рэлігійныя матывы адлюстраваны ў творчасці паэта надзвычай шырока — шырэй, чым у астатніх беларускіх творцаў таго часу і нават святароў-паэтаў Андрэя Зязюлі і

Казіміра Сваяка. У гэтым няпростым і засмечаным жыцці пісьменнік шукаў той чысты і светлы шлях да народнага аднаўлення і абуджэння свайго краю.

У просьбах-маленнях да Госпада па-мастацку глыбока і шчыра выявілася сама асоба аўтара, ягоны лёс і лёс родных — як у вершы «Аб долі сям'і»:

Прашу Цябе, Бога вялікага,
Глянь на мяне з неба высокага, —
На таго чэрвя нікчэмнага,
Бяздомнага, беднага дый гаротнага,
Што поўзае, хлеба шукаючы,
Людзей і край свой кахаючы;
Бядою ўсюды ганімага,
Няўдачамі праследуемага.
Божа вялікі, дай мне трываласці,
Да пацеш Ты мяне хоч пры старасці
Лепшаю доляй сямейцы маёй
З вялікае міласці, з ласкі Тваёй!..

Нельга абмінуць увагай і празаічны тэкст Каруся Каганца «Не той міл Богу, хто многа знае, а той, хто шчыра сэрца к яму навяртае». Ужо ў самой назве згаданага абразка раскрываецца яго ідэя: найважней не веды пэўных канонаў, галоўнае — унутраная шчырасць, душэўныя якасці чалавека. Названы твор можна лічыць і мастацкай прытчай, якая, зрэшты, шмат у чым раскрывае і аўтарскую маральна-эстэтычную пазіцыю.

Працытуем яго:

*«Ехаў адзін духоўнік высокага сану лесам, ажно бачыць: паодаль ад дарогі ляжыць калода, а праз калоду чалавек скача. Яго цікавасць узяла, і сказаў ён свайму чалавеку прыпыніціся, а сам злез і пайшоў к таму чалавеку — і чуе, як той, пераскочыўшы ў адзін бок праз калоду, кажа: "Гэта Табе, Божа!", а пераскочыўшы ў другі бок: "А гэта мне, Божа!". Тады духоўнік яшчэ болей зацікавіўся і пытае: "Што гэта, чалавеча добры, робіш?". Той спярша спалохаўся і адскочыў, а далей, апамятаваўшыся, адказвае: "Богу малюся, паночку". — "Чы ж так Богу маліцца... Хіба калі хочаш, так я цябе навучу?". Той, зрадзеўшы, давай яго ў рукі цалаваць. Тады духоўнік, сеўшы на калодзе, пачаў яго навучаці. Сяк-так навучыў адной малітве і, сказаўшы тройчы яе сабе пераказаці, паехаў далей.*

*Праехаўшы яшчэ лесам, дабраліся да лукаў. І трэба было ім перапраўляцца на пароме праз вялікую рэчку. Толькі яны пад'язджаюць к другому берагу, ажно чуе духоўнік, што хтось за ім гукае. Азірнуўся ён — і бачыць: чалавек паверх вады бяжыць як бы па гладкай дарозе. А калі прыглядзеўся, пазнаў таго чалавека, што праз калоду скакаў. Тады духоўнік, усвядоміўшы, што той мае ласку ў Бога, пытае: "Што табе, чалавеча Божы, трэба?" — "Малітву, паночку, забыўся. Будзь ласкаў — хоць раз шчэ скажы!" — "Не варт я, грэшны, вучыць цябе, ідзі і маліся, як і маліўся!"».*

Карусь Каганец стаў перакладчыкам на беларускую мову і чыста клерыкальных рэчаў: Малітвы Божай, Анёльскага Прывітання, Знака Крыжа Святога, а таксама малітваў да Госпада і Маці Боскай.

Несучы свайму народу паходню святога Божага вучэння, Карусь Каганец узняўся да найвышэйшага культурна-філасофскага спасціжэння: ідэю беларускага адраджэння ён звязаў з ідэяй Бога, не даўшы затухнуць светачам Кірылы Тураўскага, Еўфрасінні Полацкай, Францыска Скарыны — і своечасова ажывіўшы іх...

## АПОШНІ ШЛЯХ У ЛЕГЕНДУ

Роўна праз год — 26 ліпеня 1911-га — Казіміру Кастравіцкаму незаўважна раніцай, баючыся дэманстрацый ягоных таварышаў, аддалі клуначак і ўпотай выпусцілі з турмы.

Адведаўшы сям'ю, ён робіць безвыніковыя спробы знайсці работу ва Украіне, у Вільні, пасля чаго вяртаецца ў Менск і жыве ў сваёй малодшай сястры Мані, «узяўшы ў рукі разец і пэндзаль». 1911-м годам пазначана і адно з найбольш удалых апавяданняў Каруся Каганца «Што кажух, то не вата», якое па праву можна аднесці да найлепшых узораў беларускай празаічнай сатыры.

...Гарадскі паніч адправіўся зімою ў госці. Ад чыгуначнай станцыі трэба было яшчэ з дзясятак вёрстаў праехаць канём, і ён пайшоў у бліжэйшую вёску па фурманку. У хаце, дзе падахвоціліся падвезці, паніч грэбуе і адмаўляецца ад гасцінна прапанаванай капусты: «Я ўжо гарбату піў». Не адважыўся ён апрануць і мужыцкага кажуха: «У мяне паліто на ваце», — аднекнуўся. Але ў дарозе, згаладаўшыся і змерзнуўшы, ганарлівец з вялікім задавальненнем грэецца сялянскай адзежынай. Мудра і павучальна гучаць у фінале апавядання дасціпныя словы мужыка — і блізяцца да народных

«крылатых» выслоўяў: «Што кажух, то не вата, а што капуста, то не гарбата»…

Нарэшце, на пачатку 1912 г. Карусь Каганец уладкоўваецца ўпраўляючым у фальварку Жортай, каля мястэчка Багданава, што ляжыць на шляху паміж Лепелем і Барысавам. Тут, на службе ў пана Копацяя, ён і прабудзе да самай смерці.

Работа была знаёмая — больш каля лесу. Ды і сям'я (акрамя менскага гімназіста Янкі) была побач. Падрасталі дзеці. Мірон быў ужо ледзь не памочнік бацьку, Галінка і Міленка імкнуліся падтрымаць маці.

Для Каруся Каганца надышлі ці не самыя спакойныя часы. Але…

Але ці можна назваць спакойнай пару, калі праз некаторы час ад блізкага сябра Макара Богдана прыйдзе маркотны ліст, у якім будзе распаведзена і пра цяжкую долю, і пра галыцьбу-гароту, і пра тое, што ледзь не палова вёскі збіраецца выехаць у Амерыку. Казімір Карлавіч адразу ж адпісаў, і сярод дробных навін і парадаў галоўным значылася: *«Мары пра Амерыку пустыя. Гэта вялікі падман, якім травяць нашага мужыка…»*. А яшчэ быў для сябра падарунак: Карусь Каганец выпісаў яму «Нашу Ніву», за што Макар быў вельмі ўдзячны і дзяліўся сваімі ўражаннямі аб газеце ледзь не ў кожным наступным лісце.

1914 годам датаваны апошні верш Каруся Каганца «Песня зіме», у якім аўтар прыходзіць да ўжо вядомай нам з яго іншых вершаў тэмы вольнай працы на роднай зямлі, у шчаслівай сям'і (напрошваецца параўнанне з паэмай Янкі Купалы «Яна і я»). І на ўсім — адбітак акаляючага:

Воўк па лесе рышча,
Шуміць ліст дубовы,
Вецер ў полі свішча,
Мужык едзе ў дровы.
Ой, зіма, ой, зіма!
Зіма сердзіцца!
Дравец ён прывёзшы,
Насячэ, наколе;
Трушанкі нарэжа,
Скаціну напое…

Шчасліва прайшло яшчэ паўгода, а далей — летам — абрынулася бяда. Не паспелі яшчэ дайсці чуткі аб тым, што Аўстра-

Венгрыя напала на Сербію, як праз чатыры дні — 19 ліпеня — Нямеччына абвесціла вайну Расіі.

І пойдуць на імя Казіміра Карлавіча — адукаванага таварыша і шчырага дарадцы — прапахлыя дымам і порахам лісты з розных кропак ваенных баталій, са сваім горам, турботамі, просьбамі прачытаць напісанае родным, перадаць паклон жонкам, — як, да прыкладу, гэты, ад Івана Матвеевіча Вашкевіча, які прасіў перадаць сваёй жонцы — Франусі — высланыя на Каганцова імя грошы — «45 рублёў, каб купіла да свята сабе і рабятам што трэба», які сам — ужо трэці месяц не еў гарачага (перапіска Каруся Каганца з франтавікамі першай сусветнай вайны захоўваюцца ў Аддзеле рэдкіх кніг і старадрукаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, ф. 1, адз. зах. 21).

Захаваўся і ліст ад Аляксея Аляксандравіча Захарэвіча, салдата 2-га ўзвода 4-й роты 262-й запасной батарэі, напісаны 15 верасня 1915 г., у дзень батарэйнай прысягі. «Обука тяжёлая очень, — выкручана нязграбным сялянскім почыркам. — В этамъ гораде, где я нахожусь, одни латыши живуть. Хлебъ очень дорогъ, такъ что фунтъ булки 13 копеекъ. Чорнаго хлеба — восемъ. Всё не такъ, какъ у насъ у Борысове…».

Не пазбегне ваеннага ліхалецця і добры знаёмец Макар Богдан. Праўда, праз некаторы час зможа (верагодна, па хваробе) адрабіцца ад фронту. Аб усім гэтым паведаміць у паштоўцы ў сакавіку 1916 г. Ён спытае і пра другога таварыша па турэмным зняволенні: «Где то теперь подвизается Якуб Колас?».

Вялікія палітычна-сацыяльныя зрушэнні ўскалынаюць краіну. Ломяцца старыя ўстоі і парадкі, і новае — за чым праўда і жыццё — здабывае сабе дарогу. Хто б мог, скажам, падумаць ці паверыць раней, што селянін Макар Богдан, у якога рэдка траплялася лішняя капейчына, праз колькі месяцаў будзе ўдзельнічаць у сялянскім з'ездзе ў Менску, будзе абраны ў яго выканаўчы камітэт і стане старшынёй свайго валаснога камітэта (Парычская воласць), — аб чым сам і паведаміць Карусю Каганцу пасля Лютаўскай рэвалюцыі ў траўні 1917 г.

А пісьменнік тым часам выбіраецца на родную Койданаўшчыну — бліжэй да Менска, дзе вырашаўся лёс яго нацыі. Нібы другое дыханне адкрылася ў Каруся Каганца — ён абыходзіць усіх знаёмых, сустракаецца з сотнямі работнікаў, тлумачыць і пераконвае…

«Я памятаю Каганца з 1917 г., калі ён пасьля Лютаўскай рэвалюцыі пехатою прыйшоў у Менск з свайго хутару пад Койданавам… У яго быў выгляд імяніньніка: радасны, бадзёры, хоць яму было ўжо за 50 гадоў. "Вось цяпер надышоў час і нам, беларусам, працаваць", — гаварыў ён», — такія паказальныя ўспаміны пакінуў у 1928

г. Змітрок Бядуля (Бядуля Зм. Карусь Каганец (Казімір Кастравіцкі) // Зьвязда, 1928, 20 мая).

«…Мы другъ другу пишемъ письма — действительно въ знаменательное время, — прызнаваўся М. Богдан. — Это время будетъ служить людямъ — какъ живой социальный символъ <…>. Память о тебе у меня светла. И въ хорошіе минуты я часто вспоминалъ тебя. И я въ душе говорилъ — хорошо, если бы былъ со мною Костровицкий… Пало самодержавное иго, добились, такъ сказать, политической свободы, но ещё много, много предстоитъ борьбы, чтобы добиться экономической свободы; коротко говоря — “земельки”. <…> Теперешняя свобода и ликованіе похоже на ту деву, которую ты рисовалъ в тюрьме… Она улыбаиться и манитъ, но ещё великая пропасть впереди добраться до нея…».

І як ні цяжка ўсведамляць, прорва тая пашыралася з кожным новым днём… 3 сакавіка ў Брэсце падпісаны «мірны дагавор», які пажывому раскроіў Беларусь на часткі. Адно радасцю засвяцілася душа 25 сакавіка, калі прыйшла вестка аб абвяшчэнні незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

…І праз два месяцы, калі ўся абуджаная прырода буяла і красавала жыццём, на 51-м годзе цела нястомнага адраджэнца адолела смерць — 20 траўня 1918 г.

Ён — навекі ўжо грамадзянін БНР — памёр раптоўна (у хаце нікога не было) у сваіх родных у Прымагіллі, і нават жонка і дзеці не змаглі прыехаць на яго пахаванне. І ніхто з сяброў…

Можа, так і лепш: для ўсіх сваіх наступнікаў Карусь Каганец застаўся жывым — і прыкладам, і натхненнем. А шчырая травеньская квецень стала яму вечным надмагільным вянком…

Праз колькі дзён беларускія газеты змесцяць на сваіх першых старонках скупыя словы жалобных спачуванняў:

« † Казімір Кастравіцкі, іначэй Карусь Каганец скончыў свой жывот чысты для дабра людзей 20.05.1918 р., прыняўшы сьв. Сакрамэнталіі ў фальварку Юцкі Койданаўскай воласьці; пахован на радзінным цмэнтару ў Новасёлках. Даводзяць да ведама жонка, дзеці, браты і сёстры».

«Пайшоў да Бога адзін з нашых найстарэйшых піанэраў беларускага адраджэньня, пісьменьнік Каганец, — паведамляла газета «Беларускі шлях», якую рэдагаваў паэт і грамадскі дзеяч Алесь Прушынскі (Алесь Гарун). — Жыўшы ў адным з самых глухіх куткоў Беларусі, наш дарагі і паважаны таварыш тварыў свае найлепшыя беларускія песьні, якія цяпер паложаны на музыку. <…> У творах Каганца адбіваецца тая старасьвецкая Беларусь, атуленая пушчамі,

лугамі, абвеяная казкамі мінулых зруйнаваных замчышчаў беларускіх князёў. <…> Карусь Каганец меў вялікі ўплыў на ўсіх маладых беларускіх пісьменнікаў сваім бязьмежным каханнем да роднага краю, роднай мовы. Ён лічыцца духоўным бацькам усіх прадстаўнікоў беларускага руху. <…> Маці Беларусь цябе ні забудзе, і твая сьветлая магіла будзе заўсёды красавацць вянкамі, паложанымі тваімі шчырымі братамі па працы і думках…» (Беларускі шлях, 1918, 24 мая).

Магіла Каруся Каганца сцішылася ў былым маёнтку продкаў Кастравіцкіх — Навасёлках, — бліз колішняй каплічкі-ўсыпальні дзядоў-прадзедаў. Усыпальні, якой яшчэ не крануліся рукі тых, «кто был никем». Усыпальні з тоўстай драўлянай столлю, з вузкімі вокнамі ў нізкіх сценах, з якіх яшчэ не пазбівалі партрэты ў дубовых рамах і пліты з вялікімі і скупымі надпісамі:

*Michal Kostrowicki Podkomorzy…*
*1775–1853*
*Florentyna z Wojnilowiczow*
*Kostrowicka Podkomorzyna… Mingo*
*† 1848*
*Karol Kostrowicki marszalek…*
*† 1853*
*Franciska z Janiszewskich Kostrowicka,*
*1752 – 1783*
*Fabina z Maszewskich Kostrowicka,*
*1828–1878*

На шостай пліце быў родавы герб…

…А на простым дзірвановым бугорчыку слаўнага нашчадка роду Кастравіцкіх Каруся Каганца доўгі бальшавіцкі час не было ні крыжа, ні нават памятнага знаку. Толькі чырвоным сорамам гарэў на ім куст дзікага шыпшынніку…

## У СУПЛЁЦЕ ЛЕГЕНДЫ І ЛЁСУ

Паданне аб якой-небудзь гістарычнай асобе, верагоднае ці выдуманае, называюць легендай. На жаль, у лёсе Каруся Каганца больш легендарнага, бо не было магмасці напоўніцу сцвердзіцца ягонаму таленту. І таму жыццё гэтага чалавека павінна ўспрымацца найперш як нацыянальна-мастацкі покліч, які на світанку змрочнага

XX стагоддзя зваў да светлай беларускай працы новыя плеяды наступнікаў.

Але творы Каруся Каганца — не толькі гісторыка-літаратурны факт. Яны адкрывалі новыя шляхі развіцця беларускай літаратуры, а іх аўтар стаў своеасаблівым селекцыянерам беларускага мастацтва XX ст. Ён зрабіў для беларускай літаратуры амаль тое ж, што ў XIX-м для летувіскай — Антанас Баранаўскас. Імкнучыся даказаць палякам, што летувіская мова — не «мужыцкая», што яна мае багаты арсенал выяўленчых сродкаў, апошні напісаў вядомую паэму «Анікшчанскі бор». З многіх вершаў Каруся Каганца можна скласці падобную паэму, якая ў каларытных моўна-выяўленчых фарбах узнаўляе-перадае прыгажосць і веліч прыроды нашага краю.

Жыццёвыя абставіны Каруся Каганца складваліся так, што для «шліфоўкі» напісанага не было ні часу, ні ўмоў. Ён — яскравы прыклад нязбытных магчымасцяў мастака-беларуса. Чытаць Каруся Каганца сёння — нібы чытаць лёс нашага народа: лёс і калекі, і барацьбіта, і адкрывальніка, і вязня, і мастака, і аратая-сейбіта…

А яшчэ легендай па сваім першапачатковым значэнні называлі тое, што магчыма прачытаць, — да прыкладу, старыя надпісы на сівых валунах.

Цяжэй з тым, што згублена, страчана, забыта…

Вялікую колькасць Каганцовых рукапісаў яго жонка, Ганна Канстанцінаўна, пасля смерці мужа перадала Язэпу Лёсіку, які ў свой час шмат што надрукаваў у газеце «Вольная Беларусь», рэдактарам якой быў, у часопісе «Вольны Сьцяг», навукова-літаратурным зборніку «Адраджэньне». Я. Лёсік падрыхтаваў да друку і Каганцоў збор твораў, машынапіс якога бясследна знік у нетрах бальшавіцкіх выдавецтваў. (І толькі праз 61 год пасля смерці Каруся Каганца — у 1979-м — яго далёка не ўсе творы, укладзеныя С. Александровічам, з’явіліся пад адной вокладкай.)

Дарагой рэліквіяй заставаўся ў Ганны Канстанцінаўны і маленькі малюнак (7х9 см) тушшу хаты, якую пры жыцці хацеў мець Карусь Каганец. Правёўшы ўвесь век у вандроўках-туляннях, ён заўсёды марыў аб сваім сталым куце. У названым малюнку-эскізе выяўлялася цэлая жыццёвая філасофія гэтага чалавека: хата праектавалася на два коміны, з фасаду была ў чатыры акны, з крытым ганкам і саламянай страхою.

Значная частка мастацкіх твораў Каруся Каганца — малюнкі тушшу — зберагаліся (на 1928 г.) у Дзяржаўным музеі і складалі там асобную экспазіцыю.

Надзвычай цікавыя рэчы Каруся Каганца захоўваліся ў ягонага менскага таварыша Сяргея Скандракова (быў правадзейным членам Інстытута Беларускай Культуры). Гэта малюнкі зімовага краявіду і селяніна (апошні прыгожа выпісаны на дубовай кадзёлцы). Праз палову стагоддзя дачка Скандракова Ірына Сяргееўна перадала ў Цэнтральны дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва Беларусі цудам збераждоныя ў ліхалецці часу Каганцовыя партрэт беларускага селяніна і кульбу з арнаментам.

У розных крыніцах мільгалі і няпэўныя сведчанні аб тым, што, верагодна, якія-кольвек творы Казіміра Кастравіцкага маглі б адшукацца ў старых калекцыях прафесара Браніслава Эпімах-Шыпілы і Рамуальда Зямкевіча...

Шмат памятак аб Карусю Каганцу засталося было і ў самой Ганны Канстанцінаўны Кастравіцкай, якая пасля смерці мужа дажывала свае гады ў Менску непадалёк ад Залатой Горкі, у доміку каля прыгожага саду, займаючы невялікі пакойчык, дзе і знаходзіліся малюнак алеем кабзара, каменная сякера з намаляваным на ёй стральцом, начоўкі, аздобленыя выразным арнаментам. Ганна Канстанцінаўна заўсёды з вялікай ахвотай прымала гасцей, але аб сваім мужы расказваць шмат не магла — аповед перабівалі слёзы... А гора большала з кожным днём: не было вестак ад сына Янкі (які згубіўся быў у грамадзянскую вайну, а ў будучым стаў капітанам дальняга плавання), не магла зажыць душэўная рана па Міроне, які ў 1919 г. па дарозе ў Менск загінуў...

Паказальна, што родзічы Каруся Каганца не адышлі ад беларушчыны. Так, яго пляменнік Самуіл Кастравіцкі, сын брата Амброзія, стаў сябрам Партыі беларускіх нацыяналістаў, паплечнікам В. Іваноўскага і Я. Станкевіча ў справе адбудовы беларускай дзяржаўнасці напрыканцы 30-х гадоў...

Дачка Каруся Каганца, Галіна Казіміраўна, скончыла Горы-Горацкую акадэмію, выйшла замуж і пераехала ў Маскву, куды неўзабаве забрала старую маці. Памерла Ганна Канстанцінаўна Кастравіцкая ад рака страўніка 20 верасня 1934 г.

У гэты ж час у далёкіх Навасёлках паблізу Койданава (цяперашняга Дзяржынска) узломвалася сямейная капліччка Кастравіцкіх, узварочваліся «барацьбітамі са старым светам» сівыя магільныя пліты... І каб не самаадданая праца братоў Ермаловічаў — Леаніда і Міколы Іванавічаў, выхадцаў з Малых Навасёлкаў — хто ведае, ці адшукалі б мы цяпер і саму магілку Каруся Каганца...

Ды як бы цяжка сёння ні збіраліся ў нашу літаратурную скарбніцу разгубленыя гронкі святла Каруся Каганца, неабходна

памятаць: тое, што належыць прачытаць, павінна быць прачытаным, і трэба не забывацца, што перад намі — Легенда, якую можна толькі дапісваць, дастворваць, якую нельга і нават грэшна крэсліць і бэсціць, бо гэта — лёс, трагічны і велічны, нас саміх.

І будзем верыць у тое, што легенды, у падмурку якіх загартаваныя ў полымі змагання за культуру і народ жыцці, вечныя на нашай зямлі, бо вечны і несмяротны і сам народ, які мае і стварае такія легенды, бо, у рэшце рэшт, як пісаў таямнічы родзіч самога ж Каруся Каганца Гіём Апалінэр, **ніколі змрок святла не пераможа**!

*1993–1994*